

# ВІТАЛЬ ВОЛЬСКІ

    

МАЛЮНКІ
Л. ЗЯНЕВІЧ і Ул. ПІМЕНАВА

МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1975

# МЕСЯЦ ЗА МЕСЯЦАМ









КАЛЯНДАР БЕЛАРУСКАЙ ПРЫРОДЫ





## МЕСЯЦ ЗА МЕСЯЦАМ

Дзень за днём... Месяц за месяцам...

Пасля вясны — лета. Потым, як і заўсёды,— восень, зіма. Зноў вясна.

Усё той жа знаёмы, адвечны кругаварот.

Усё паўтараецца спачатку. Сезонныя з'явы прыроды адбываюцца ў той жа паслядоўнасці, як і ў мінулым годзе, як і сотні, тысячы год назад.

І ўсё ж такі, наглядаючы адну і тую ж прывычную з'яву, мы заўсёды знаходзім нешта новае.

І кожны раз мы сустракаем змену пары года, як нешта цікавае і нібыта непаўторнае. І кожны раз мы радуемся жаданай вясне, радуемся адраджэнню і аднаўленню прыроды, перамозе сонца, перамозе святла, цяпла і жыцця таксама, як радаваліся гэтаму незлічоныя пакаленні нашых продкаў.

Мы любім прыроду.

Любім густыя цёмныя лясы, вясёлыя сасновыя бары
і кучаравыя дубровы на ўзгорках,
бязмежныя калгасныя нівы,
якія хвалююцца летам, як залацістае мора, і цудоўныя сады,

і сакавітыя, каляровыя ад духмяных кветак лугі, і спакойныя, задуменныя рэкі, і шырокія сінія азёры нашай Радзімы.
Цяжка ўявіць сабе вобраз бацькаўшчыны
без характэрных пейзажаў роднага краю.

Мы хочам, каб усюды ў нашай краіне, ва ўсіх яе гарадах і вёсках, былі прыгожыя кветнікі, сады і паркі,
каб усюды людзі дыхалі чыстым, здаровым паветрам.
Але мы не толькі любуемся прыродай. Мы пераўтвараем яе на карысць чалавека, на карысць сацыялістычнага грамадства.
А для таго, каб рабіць гэта паспяхова, каб быць
сапраўдным гаспадаром прыроды, дбайным і клапатлівым,
трэба не толькі любіць яе, але і ведаць, і разумець.

Маленькія, забаўныя палявыя і лясныя мышы —
нашы небяспечныя ворагі, а непрыгожыя,
нават агідныя з выгляду кажаны і рапухі — сябры.
Але шмат хто гэтага не ведае. Знаходзяцца нават і такія,
што лічаць сваім абавязкам пры сустрэчы з рапухай
расціснуць ёй галаву абцасам.
Яны і не думаюць аб тым, якую шкоду гэтым прычыняюць.

Амаль усе нашы птушкі, у тым ліку і пераважная большасць
драпежных, прыносяць вялікую карысць.
А ці многія з нас ведаюць, чым карысна тая
ці іншая птушка?

Хрушчы, караеды, даўганосікі, шматлікія вусені
розных матылькоў з'яўляюцца шкоднікамі лясоў, садоў і палёў.
Але сярод насякомых ёсць і вельмі карысныя.

Пчолы прыносяць мёд, чмялі дапамагаюць забяспечыць
добры ўраджай многіх культурных раслін,
божыя кароўкі знішчаюць шкодных тлей.

Для таго каб усё гэта ведаць, трэба вывучаць жыццё
жывёл, птушак і насякомых,
назіраць за іх паводзінамі і звычкамі.

Ідзіце ў вольны час у сад, у поле, на рэчку, на возера.
Запісвайце тое, што ўбачыце.
Добра было б і фатаграфаваць і замалёўваць,
калі хто можа і ўмее.

Мы супроць драпежніцкіх, безадказных адносін да прыроды. Прасачыць птушку ў гняздзе ці звярка дзе-небудзь
у глухім, маладаступным кутку, падпільнаваць іх непрыкметна
і зрабіць фотаздымак у прыроднай абстаноўцы
ці замаляваць з натуры, калі яны гэтага зусім не чакаюць,
а потым яшчэ і апісаць дакладна ўсё бачанае, —
што можа быць цікавей?

Хіба гэта не лепш, чым забіць птушку
без патрэбы і сэнсу ці разбурыць яе гняздо,
як гэта робяць яшчэ некаторыя,
і сваім недарэчным, ганебным учынкам
нанесці шкоду і страту лясной і садовай гаспадарцы?

Паляванне без стрэльбы і злосных намераў,
з фотаапаратам, сшыткам і алоўкам прыносіць шмат радасці,
душэўнага спакою і глыбокага задавальнення.
Яно ўзбагачае нас ведамі, развівае цярплівасць, вытрымку,

назіральнасць, даследчыя навыкі. Аб кожным удалым эпізодзе такога палявання надоўга застаюцца прыемныя ўспаміны.

Не забывайце, што ў прыродзе
ўсё знаходзіцца ў непарыўнай, заканамернай і часам вельмі складанай узаемасувязі. Жыццё звяроў, птушак і насякомых, таксама як і раслін, залежыць ад навакольнага асяроддзя
і, у сваю чаргу, робіць уплыў на гэтае асяроддзе. Таму абавязкова звяртайце ўвагу на абстаноўку, заўважайце дэталі і дробязі, адзначайце дакладна час і месца свайго назірання.

Для першага знаёмства прачытайце гэты кароткі летапіс жывой прыроды. Мы вядзём яго ў прывычнай, каляндарнай паслядоўнасці — па месяцах, пачынаючы з Новага года.

Запісы нашы далёка не поўныя. Цяжка ахапіць у сціслай зводцы ўсю бясконцую разнастайнасць і багацце прыроды.

Калі гэтыя запісы вас зацікавяць, калі яны абудзяць у вас любоў да роднай прыроды і вы самі захочаце прыглядзецца ўважліва да жыцця звяроў і птушак, назіраць за іх звычкамі і паводзінамі,
я буду вельмі задаволены.
Я палічу, што выканаў сваю задачу.

А цяпер, дарагія чытачы, перагорнем першую старонку нашага календара беларускай прыроды.



# С Т У Д З Е Н Ь



Зіма, на дварэ мяцеліца вее,
Халодныя песні заводзіць віхор,
Зоркі не свецяць, і сонца не грэе,
Аж вылезці страшна і глянуць на двор.

ЯНКА КУПАЛА

Ой, як сцюдзёна на дварэ...

Надышоў самы халодны месяц у годзе. Нездарма называюць яго — студзень.

Трашчыць мароз. Рэкі і азёры скаваны лёдам.

Усё засыпана снегам.

Спяць у лесе, нібы зачараваныя, асілкі-дубы. Згінаюцца пад цяжарам снегу стройныя, тонкія красуні бярозы.

Маладыя пушыстыя елкі ды сосны ажыўляюць навакольную снежную бель сваім вечназялёным убраннем.

Ціха і маўкліва ў заснежаным лесе. Толькі стук дзятла парушае цішыню і спакой марознага дня.

З вяршыні на вяршыню старых ялін пералятаюць белабокія сарокі. Гэта адзнака таго, што мароз будзе трымацца. Перад адлігай сарокі лятаюць нізка.

Нялёгка пракарміцца ў гэты суровы час капытным жыхарам лесу. У самым гушчары пад дубам раскапаны снег. Тут шукалі жалудоў дзікія свінні.

У пошуках корму дзікі ходзяць па лесе чарадой, адзін за адным, пракопваючы ў снезе цэлыя траншэі. Наперадзе ідуць, пракладаючы дарогу, старыя і самыя дужыя дзікі, а за імі спяшаецца маладняк.

Маладыя дзікі часам не могуць выбрацца з глыбокага снегу і выкапаць сабе корм з заснежанай і абледзянелай зямлі. Адстаўшы ад старэйшых, яны выбіваюцца з сіл і гінуць ад холаду і голаду.



Ласі, алені і казулі капытамі выкопваюць сабе з-пад снегу леташнюю траву, мох і карэнні. Яны аб'ядаюць тонкія галінкі кустоў і кару маладых дрэў.

Не турбуюць зімою харчовыя справы мядзведзя. За лета і восень ён адкарміўся на славу, назапасіў тлушчу пад сваёй тоўстай скурай на ўсю зіму і цяпер спіць спакойна ў цёплай бярлозе. Ён не баіцца ні снегу, ні марозу, ні голаду. Бярлога мядзведзя выслана сухім лісцем, травой і мохам. Знаходзіцца яна дзе-небудзь пад старым вываратнем, у глухім, недаступным месцы, сярод паваленых дрэў і буралому.

Барсукі, янотападобныя сабакі і вожыкі таксама спяць у сваіх норах, ямах і норках, засыпаных снегам.

Жыхары нашых рэк і азёр — выдры і бабры — зімою не спяць. Набраўшы запас паветра ў лёгкія, выдры доўга могуць плаваць і лавіць рыбу пад лёдам. Густая поўсць і падскурны тлушч абараняюць іх ад холаду. Нягледзячы на мароз і снег, яны перабіраюцца з месца на месца, з аднаго вадаёма ў другі.

Цікавы выпадак адбыўся ў пачатку студзеня 1950 года ў Мінску. На Свіслачы, у цэнтры горада, у парку імя Горкага, каля пешаходнага моста, які вядзе ў парк з вуліцы Карла Маркса, бачылі днём выдру. Яна сядзела на беразе. Калі да яе наблізіўся чалавек, выдра кінулася ў ваду — зіма ў тым годзе была цёплая. На другі дзень выдру бачылі на тым жа месцы. Яшчэ праз дзень яе заўважылі ў Свіслачы недалёка ад Замчышча.

Гэты выпадак сведчыць аб тым, што выдры і ў зімовы час робяць вельмі далёкія падарожжы па рацэ, заплываюць нават у межы горада.

Бабры зімуюць у сваіх заснежаных хатках. Праз падводны выхад з хаткі



яны выплываюць пад лёд і кормяцца тымі запасамі асінавага галля, што нарыхтавалі ■ восені ў сваіх кладоўках на дне вадаёма. Бабры знаходзяць пад лёдам на дне і ядуць салодкія карэнні гарлачыкаў. Яны рэдка выходзяць зімою з хатак на снег, але часам бываюць выпадкі, калі асобныя бабры з'яўляюцца даволі далёка ад сваіх паселішчаў.

Па лясах, палях і пералесках блукаюць зімою галодныя і злыя ваўкі. За лета і восень падраслі ваўчаняты, і цяпер ваўкі ходзяць сем'ямі. Днём яны адпачываюць у густых зарасніках, а ўночы выходзяць на паляванне.





Зімою воўк есць усё, што трапіць яму на зуб. Выбіраць галоднаму бадзягу не прыходзіцца. У пошуках здабычы ваўкі праходзяць за ноч дзесяткі кіламетраў. Яны палююць зграямі на ласёў, аленяў і казуль, ловяць зайцоў і птушак, шукаюць мышэй, нападаюць на хатнюю жывёлу і сабак, падпільноўваюць адсталых, знясіленых дзікоў. Зімою, асабліва ў канцы студзеня, у час гону, воўк у нашых мясцінах самы небяспечны і дзёрзкі драпежнік.

У лясных гушчарах хаваецца другі буйны і смелы драпежнік — рысь. Гэтая дзікая лясная кошка на высокіх і дужых лапах з вострымі кіпцюрамі, з цёмнымі кутасікамі на вушах і бакенбардамі па абодвух баках морды, у шэра-жоўтым цёплым футры з цёмнымі плямкамі з'яўляецца лютым ворагам ласёў, аленяў, казуль, дзікоў, зайцоў, цецерукоў.

Рысь добра ведае пратаптаныя ў снезе сцежкі, па якіх ходзяць алені. Вось

падышла рысь да такой сцежкі, спынілася ля старога, зацярушанага снегам дрэва. Неўзабаве яна ўзбярэцца на гэтае дрэва і ляжа на сук, што звісае над самай сцежкай. Тут яна будзе ляжаць нерухома гадзінамі, цярпліва чакаючы, калі пойдуць па сцежцы алені. Калі алень будзеісці адзін, рысь адразу кінецца на яго і перагрызе яму горла. Калі ж іх будзе некалькі, яна прапусціць першых і кінецца на апошняга. Толькі здараецца такая ўдача не вельмі часта.

Хоць рысь і спрытная, і дужая, і хітрая, але зімою нялёгка ёй знайсці здабычу. Алені і касулі сустракаюцца рэдка, птушак у заснежаным лесе мала. Часта даводзіцца ёй галадаць. Зімою асноўным кормам рысі з'яўляюцца зайцы, а яны трымаюцца ў гэты час каля садоў і агародаў. Шукаючы зайцоў, рысь падыходзіць часам і да чалавечага жылля.

У студзеньскі вечар адзін рабочы саўгаса пайшоў памыцца ў лазню на сваім двары. Перад тым як пакласці



дровы ў печ, ён захацеў выграбці попел. У гэты момант з печы выскачыла рысь і, фыркнуўшы, кінулася ў расчыненыя дзверы. Як жа яна там апынулася? Відаць, захацелася рысі паспаць у цяпле. Прыцемкам яна пракралася ў незачыненую лазню і, як кошка, залезла ў печ, а тут і патурбаваў яе гаспадар. Па загуменню рысь уцякла ў недалёкі пералесак. Здарылася гэта ў Лепельскім раёне Віцебскай вобласці.

Усю доўгую зімовую ноч шукае сабе корм заяц-русак. У полі ён ужо нічога не можа знайсці. Сляды русака можна ўбачыць у гэты час на задворках, каля гумна, і ў садах, каля фруктовых дрэў. Ён абгрызае тут кару маладых яблынь і галінкі кустоў.

Русаку ў зімовы час трэба быць асабліва пільным і асцярожным. Яго бліжэйшаму родзічу, зайцу-беляку, лягчэй хавацца ад ворагаў. Зімою заяц-бяляк змяняе адзенне на белае футра, якое сваім колерам не адрозніваецца ад снегу і дапамагае беляку добра маскіравацца.

У русака такой перавагі няма. На працягу ўсяго года ён застанецца ў сваім нязменным шэра-бурым убранні. Таму і стараецца русак трымацца там, дзе менш снегу, дзе многа дрэў і кустоў, сярод якіх ён не так рэзка вылучаецца сваім колерам. А ворагаў у небаракі шмат. Асабліва трэба яму баяцца ваўка і лісы.

Яркім полымем мільганула ліса на белым снезе. Нячутна крадзецца яна пад зялёнымі лапамі ялін, што навіслі нізка над зямлёй. Вострая хітрая мордачка прынюхваецца да снегу. Лясныя мышы пракапалі сабе пад снегам хады і галерэі да сваіх зімовых кладовак пад карэннямі дрэў. Добры нюх лісы дапамагае ёй знаходзіць і выкопваць мышэй з іх падснежных сховішчаў. Ловіць яна і зайцоў, і птушак, падбіраецца часам і да курэй, але зімою, калі снег глыбокі, мышы асноўны корм лісы.

Хай сабе мышкуе на здароўе рыжая красуня! За гэта можна ёй толькі падзякаваць, бо вялікую карысць прыносіць нам ліса, знішчаючы шкодных грызуноў.

Улетку ловіць яна таксама і нямала насякомых, шкодных для сельскай гаспадаркі, — конікаў і розных жукоў, асабліва хрушчоў і іх лічынкі.

Мы смела можам лічыць лісу адным з нашых добрых памочнікаў у справе аховы ўраджаю. А цёплае і прыгожае футра, якое ліса дае чалавеку? За ўсё гэта можна дараваць лісе тое, што з'есць яна часам курыцу ці качку на двары, цецерука ці курапатку ў лесе. Карысці ад лісічкі-сястрычкі больш, чым шкоды.

Ліса шукае сабе спажывы пад дрэвамі і кустамі, а на верхніх паверхах лесу гаспадарыць куніца, самы злосны вораг вавёркі. Спрытна і шпарка пераскаквае вавёрка з дрэва





на дрэва, з галіны на галіну, але і куніца гоніцца за ёю з няменшай імклівасцю. Часам знойдзе куніца вавёрку, калі тая спіць у сваім цёплым гнязде, у дупле старога дрэва, з'есць гаспадыню і сама ляжа спаць на яе месца.

Бывае і так, што вавёрка адчуе небяспеку, выскачыць з гнязда і памчыцца па заснежаных дрэвах, па самых вяршалінах, а куніца за ёю. Канец для вавёркі заўсёды адзін, бо куніца ўмее лазіць і бегаць па дрэвах не горш за яе.

Футра куніцы, мяккае, цёплае і пушыстае, высока цэніцца і мае прамысловае значэнне.

Можа, вы бачылі на сваім двары ці на вуліцы шэра-бурых чубатых птушак з тонкай і вострай дзюбкай і шпорамі на нагах? Яны пералятаюць з месца на месца невялікімі чародкамі разам з вераб'ямі.

Гэта — чубатыя жаваранкі.

Зімою яны прылятаюць у гарады і сёлы падкарміцца, пашукаць зярнят аўса ў вулічным снезе, а вясной заспяваюць першымі ў небе над полем.

Холадна і марозна ў студзені, але дзень ужо трошкі павялічыўся. Чым далей, дзень будзе рабіцца ўсё даўжэйшым, а ноч карацейшай.





# Л Ю Т Ы



То разбяжыцца,
То пухам засцелецца,
Гойкае, кружыць,
Спявае мяцеліца.

ПЯТРУСЬ БРОЎКА

Люты лічыцца апошнім месяцам зімы. Лютуюць халодныя, рэзкія вятры, завеі, мяцеліцы. Гэта месяц снежных заносаў. Зіма нібы збірае апошнія сілы, каб спагнаць сваю злосць перад сконам.

З кожным днём усё цяжэй лясным жыхарам знаходзіць сабе корм. Асабліва церпяць ад холаду і бяскорміцы казулі.



Летам лёгкія і спрытныя казулі могуць добра бегаць і высока скакаць, але зімой ім гэта не ўдаецца. Тонкія ногі казулі з маленькімі вострымі капытцамі правальваюцца ў глыбокі снег і хутка стынуць ад марозу, а там, дзе няма снегу, слізгаюць па мёрзлай зямлі. Пасля адлігі цвёрдая абледзянелая снежная паверхня, шарон, раніць іх ногі да крыві. Кожны раз, скокнуўшы, ка-

зуля вязне ў глыбокім снезе, з якога ёй цяжка выбрацца.

Амаль адзіным кормам казулі ў гэты галодны і халодны час з'яўляюцца голыя абледзянелыя галінкі маладых дрэўцаў і кустоў. Казулі слабеюць ад недахопу корму, ад барацьбы з завеямі, з глыбокім снегам і часта становяцца здабычай ваўкоў.

Ласі, алені і казулі трымаюцца зімою статкамі. Ад суровых, халодных і рэзкіх вятроў яны хаваюцца ў лясным гушчары. Між іншым, ласі не церпяць прысутнасці аленяў, а алені — ласёў. У мясцовасці, дзе ёсць ласі, ніколі не бывае аленяў, і наадварот.

З капытных жывёл менш за ўсё баяцца холаду зубры. Густая і цёплая, падобная на лямец, поўсць надзейна ахоўвае іх ад марозу. У зімовы час зубры трымаюцца ў такой мясцовасці, дзе лягчэй хавацца ад халоднага ветру і дзе снег не такі глыбокі. Яны выкопваюць з-пад снегу леташнюю траву, кормяцца карой і галінкамі маладых дрэў. Але корму зімой не хапае і зубрам.



Для таго каб дапамагчы капытным жывёлам — казулям, аленям, ласям, зубрам, дзікам — пераажыць суровую сцюжу, каб падтрымаць іх сілы ў бяскорміцу, у розных месцах Белавежскай пушчы пабудаваны спецыяльныя кармушкі. Час ад часу егеры прывозяць сюды і

кладуць пад паветкай сена, авёс, гароднiну, а таксама соль, у якой капытныя жывёлы адчуваюць патрэбу. Лясныя жыхары знаюць гэтыя месцы i часта наведваюцца да кармушак, каб добра там падсiлкавацца. Кармушкi ратуюць iх часам ад галоднай смерцi.

Зуброў падкормлiваюць не толькi зiмою, але i на працягу ўсяго года. У лютым месяцы яны наогул далёка ад кармушак не адыходзяць. Павольна пасоўваюцца па снезе магутныя калматыя лясныя быкi.

Для ўсiх звяроў i птушак люты з'яўляецца самым лiхiм месяцам у годзе. Але ў прыродзе адбываюцца ўжо змены, якiя сведчаць аб тым, што неўзабаве прыйдзе чаканая вясна, што панаванню зiмы з маразамi, вятрамi i завеямi надыходзiць канец. I лясныя жыхары адчуваюць гэтыя змены.

У пачатку лютага ў мядзведзiцы, якая зiмуе ў бярлозе асобна ад мядзведзя, нараджаюцца малыя медзведзяняты. Яны ляжаць каля сваёй маткi, маленькiя, бездапаможныя, сляпыя, i смокчуць малако. Медзведзяняты пачынаюць бачыць толькi на пятым тыднi пасля нараджэння, а мацярынскiм малаком кормяцца на працягу трох месяцаў. Растуць яны ў гэты час вельмi павольна.

Галодныя ваўкi робяцца цяпер асаблiва нахабнымi. Нам вядомы выпадак, якi здарыўся ў пачатку сакавiка 1955 года ў Кайкаўскiм сельсавеце Мiнскага раёна.

Вучань сёмага класа мясцовай сярэдняй школы, узяўшы санкi i вiлы, пайшоў у лес па галлё. З iм быў сабака. Калi хлопец наблiзiўся да лесу, сабака пабег наперад.

Праз некалькi хвiлiн пачуўся спачатку трывожны брэх сабакi, а потым вiск, поўны роспачы i жаху. Сабака выбег з-за дрэў i, шукаючы ратунку, кiнуўся пад ногi гаспадару.

Следам за сабакам выскачыў з лесу воўк. Ён гнаўся за сваёй здабычай так iмклiва, што ледзь не збiў вучня з ног. Не звяртаючы на хлопца ўвагi, звер кiнуўся на сабаку. Вучань схапiў вiлы i з



усяе сілы ўсадзіў іх ваўку ў пашчу, а потым ударыў яшчэ і яшчэ. Неўзабаве звер быў забіты. Хлопец атрымаў за гэта прэмію, бо за знішчэнне ваўка дзяржава выплачвае грашовую ўзнагароду.

У канцы лютага пачынаюць у бярэзніку час ад часу чуфыкаць і балбатаць цецерукі. Яны распускаюць свае прыгожыя чорна-сінія хвасты, падобныя на ліру. Над вачамі ў іх — ярка-чырвоныя бровы. Кормяцца цецерукі ў гэты час пупышкамі бяроз.

Глушцы, блізкія сваякі цецерукоў, трымаюцца ў лютым у сасновых барах, дзе харчуюцца цяпер амаль выключна шыпулькамі.

Ідзеш па сцежцы між высокіх хваін, навокал ціха, наперадзе нікога і нічога, здаецца, няма, і раптам, патрывожаны з'яўленнем чалавека, вялікі лясны певень з шумам зрываецца з дрэва і цяжка ляціць, лопаючы крыламі. Як і ўсе курыныя, глушэц — лятун далёка не першакласны.



# САКАВІК



І пад птушы крык і гоман,
Даўшы хвалям вольны ход,
Прыпадыме бацька Нёман
На хрыбце магутны лёд.

Зазвіняць жалобна крыгі,
І бурлівая вада
Снег размоклы ў час адлігі
Змые з лугу без сляда.

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

Маразы і завеі змяняюцца частымі адлігамі. Паветра халоднае і вільготнае, але ўсё часцей праясняецца шэрае неба, снег робіцца мокрым і цяжкім. На адкрытых мясцінах паказваюцца першыя праталіны.

У сонечныя дні на вуліцах ажыўлена цырыкаюць вераб'і. Вясёлыя і гарэзныя птушкі ўсё часцей распачынаюць між сабою шумныя заўзятыя бойкі.



Верабей — птушка зусім не шкодная, як думаюць некаторыя, а карысная. Сваіх птушанят вераб'і выкормліваюць выключна насякомымі. Вучоныя падлічылі, што адна пара вераб'ёў, кормячы двух птушанят, знішчае на працягу дня каля пяцісот розных вусеняў, мух, жучкоў і лічынак, шкодных для саду, агарода, поля і лесу. Калі ж вераб'і дзяўбуць часам ягады ці крадуць зерне,



то варта лічыць гэта ўзнагародай ці, калі хочаце, заработнай платай за пільную ахову ўраджаю ад шкоднікаў.

Вельмі павучальным з'яўляецца ў гэтым сэнсе сумны прыклад Кітая. Там вырашылі знішчыць усіх вераб'ёў. І знішчылі — грунтоўна, па камандзе, у парадку масавага мерапрыемства, як гэта ўмеюць рабіць кітайцы. А потым прыйшлося ім закупіць вераб'ёў за граніцай, прывезці ў Кітай і выпусціць на волю, бо пасля знішчэння гэтай жвавай птушкі шкодныя насякомыя размножыліся ў такой непамернай колькасці, што ўраджай на палях, у садах і агародах знізіўся як ніколі.

Такім чынам, верабей цалкам рэабілітаваны, нават і ў Кітаі.

Над лесам, высока над дрэвамі, прагучала кароткае, аднастайнае:

— Кру... Кру...

Гэта кружыць у небе чорны крумкач. Ён лятае цяпер адзін, без сяброўкі.

У яго часам яшчэ заснежаным гняздзе на высокім старым дрэве з'явілася першае яйка. Гняздо зроблена моцна і трывала з двух радоў галінак, а ўнутры выслана мохам, сухой травой, шарсцінкамі. У гэтым мяккім і цёплым гняздзе самка крумкача выседжвае яйкі, не зважаючы на холад і снег.

Корміцца крумкач усім, што можна з'есці,— чарвякамі, лічынкамі, птушанятамі, зайцамі. Асабліва любіць ён усялякую мярцвячыну. Лятаючы высока над лесам і полем, крумкач здалёку знаходзіць яе на зямлі. Ён прыносіць пэўную карысць і гэтай сваёй «санітарнай службай», і тым, што знішчае шкодных насякомых, мышэй і слімакоў. Жыве крумкач вельмі доўга — да трохсот — чатырохсот год.

Цецерукі ўсё часцей вылятаюць на лясныя паляны і грэюцца на са-

кавіңкім сонцы. Яны трымаюцца цяпер асобна ад цяцёрак, з якімі былі разам на працягу ўсёй зімы. Калі пад праменнямі веснавога сонца вызваліцца ад снегу зямля, у цецерукоў пачнецца ток.

У канцы сакавіка, калі ў лесе яшчэ шмат снегу, пачынае такаваць глушэц. Заканчваецца ток у канцы мая, калі ўсё вакол зелянее.

Такуе глушэц звычайна на суку высокага дрэва, каля балота. Звесіўшы крылы ўніз, ён распускае хвост веерам і выцягвае наперад шыю, а галаву задзірае ўгору. Глушэц пачынае такаваць на досвітку, калі вакол цёмна і лес яшчэ не абудзіўся.

У халодным вільготным паветры далёка чуваць дзіўныя, нібы драўляныя гукі. Голас глушца ў час такавання нагадвае то скрып дрэва і трэск галінак, то шчоўканне і бульканне, то стук драўляных прадметаў. Песня глушца нібы народжана лясным шумам — гоманам сосен, шолахам вяршалін, скрыпам дрэў.



Такуючы, глушэц нічога не чуе, нічога не заўважае. Таму і называюць яго глушцом. Ён цалкам захоплены сваім спевам. Але, скончыўшы такаванне, ён, перш чым пачаць новую песню, пільна прыслухоўваецца і аглядаецца наўкола.

Разам з белавежскім зубрам глушэц з'яўляецца ў нашых лясах жывым прадстаўніком ледніковага перыяду, калі на нашай зямлі хадзілі статкі мамантаў — вялізных калматых сланоў, якія вымерлі дзесяткі тысяч год назад. І ў тыя далёкія ад нас часы гучаў у вільготным паветры скрыпучы спеў глушца.

У канцы сакавіка можна ўбачыць у ваколіцах гарадоў драпежнага птаха — каршуна. Ён прылятае сюды шукаць здабычу. У час палёту каршуна лёгка пазнаць па шырокаму размаху выгнутых крылаў і доўгаму, раздвоенаму на канцы хвасту.

Каршуны ловяць варон, галубоў, галак, дробных птушак, мышэй і жаб. Падбіраюць яны таксама і падліну. На ўскраіне горада каршун ранняй вясной корміцца варонамі. На пацямнелым снезе пад высокімі соснамі відаць у гэты час сляды яго паляўнічай дзейнасці — рэшткі з'едзеных варон.

У лясным гушчары прачнуліся ў сваіх норах барсукі. Вылазіць з бярлогі мядзведзь. У ласёў адрастаюць новыя рогі.

Зайчыхі прыносяць у канцы сакавіка першы прыплод — малых зайчанят, так званых «марцавічкоў», з якіх рэдка каторы выжывае, бо надвор'е ўсё яшчэ халоднае і няўстойлівае.

У гэты ранні веснавы час, калі снег яшчэ не сышоў, у нашых парках, садах і палях з'яўляецца заклапочаны грак.

Хто не ведае карціны мастака Саўрасава «Гракі прыляцелі»? Перад гледачом — характэрны малюнак ранняй вясны. З-пад пацямнелага снегу ўсюды выступае вада, утвараючы на паверхні мёрзлай зямлі вялікія лужыны. Змрочнае, шэрае неба з цяжкімі дажджавымі хмарамі нізка навісла над шырокай, бясконцай раўнінай. А на пярэднім плане, на голых і мокрых бярозах,— гракі, раннія веснавыя госці. Яны збі-

раюць на зямлі галінкі, аднаўляюць свае разбураныя гнёзды.

Гракі прылятаюць да нас з цёплых краёў звычайна каля 18—20 сакавіка. З шумам і крыкам кружаць яны над гарадскімі вуліцамі, падзяліўшыся на пары, пачынаюць рамантаваць старыя гнёзды.

Адзін мой сябар з Ленінграда падзяліўся са мною сваімі назіраннямі за «будаўнічай дзейнасцю» гракоў у старым парку. У пісьме ён расказваў: «Гракі даволі хутка вызвалялі ад кары галіны ліп даўжынёю на тры метры і крыху таўсцейшыя за палец. Яны заціскалі кончык кары ў дзюбе і цягнулі яе, пасоўваючыся да ствала. Такім чынам гракі сцягваюць кару, як пальчатку, з усёй галіны. Потым раздзіраюць кару на валокны і высцілаюць гняздо, зробленае з тонкіх галінак. Я ніколі не назіраў такога і не думаў, што гракі высцілаюць гнёзды такім матэрыялам».

Грак любіць жыць па суседству з чалавекам. Гняздзяцца гракі цэлымі кало-



ніямі на старых дрэвах у парках і гарадскіх садах. Гнёзды іх размешчаны блізка адно ад другога. На адным дрэве можна налічыць больш за пятнаццаць — дваццаць гнёздаў, па некалькі на адным суку.

Кожную раніцу, на досвітку, гракі вылятаюць у поле і на свежаўзаранай раллі дбайна збіраюць лічынкі хрушчоў. Для сельскай гаспадаркі грак — птушка патрэбная і карысная. Ён знішчае ў вялікай колькасці мышэй, хрушчоў, слімакоў і іншых шкоднікаў.

У вырай гракі адлятаюць ад нас позняй восенню. Яны збіраюцца ў вялікія чароды і павольна пасоўваюцца на поўдзень, затрымліваючыся то ў адной, то ў другой мясцовасці. З першым подыхам вясны гракі вяртаюцца на радзіму.

Следам за гракамі прылятае да нас і другі доўгачаканы госць — палявы жаваранак. Над чорнымі палямі звініць у высокім небе яго чысты, звонкі і радасны спеў.

Потым чародкамі вяртаюцца з далёкага падарожжа вясёлыя вёрткія шпакі, і адразу пачынаюцца ў іх заўзятыя сваркі з вераб'ямі. Тыя пасяліліся, пакуль адсутнічалі гаспадары, у пустых шпакоўнях і цяпер адмаўляюцца пакінуць незаконна захопленыя кватэры.

Шпак — таксама вельмі карысная птушка. Кормячы сваіх малых, пара шпакоў знішчае на працягу адной вясны больш за сем тысяч хрушчоў.

Гракі, шпакі, зязюлі, дзятлы, ластаўкі, пліскі, берасцянкі і іншыя птушкі ахоўваюць нашы сады, лясы, палі і агароды ад шкодных насякомых.

У канцы сакавіка абуджаюцца да жыцця дрэвы. У ствалах дрэў пачынаецца рух сокаў. Таму гэты месяц і называецца — сакавік.





# К Р А С А В І К



Звоняць рэкі з ручаямі.
Расшумеліся дубровы,
Над палямі, над барамі
Кліч праносіцца вясновы.

ПЯТРУСЬ БРОЎКА

Красавік — месяц цёплы і вільготны, месяц першых дажджоў і паводак.

Вясна ўвайшла ў свае правы, адчула сваю моц.

Сонца грэе ўсё цяплей. Зямля вызвалілася з-пад снегу. На вербах з'явіліся на змену «коцікам» маленькія кволыя лісточкі.

Вяртаюцца з цёплых краёў на радзіму жоравы, буслы, гусі, качкі.

У самым пачатку красавіка, цёмнай вячэрняй парой, я пачуў упершыню крык пугача. Раніцай прайшоў дождж, а пад вечар крыху падмарозіла, і мокры снег зацвярдзеў.

Увесь дзень над праталінамі спявалі ў небе жаўранкі. Над лесам праляцелі на поўнач дзікія гусі з радасным прывітальным крыкам:

— Гонк, гонк, гонк...



Калі сцямнела, з-пад даху нашага дома выпырхнулі кажаны.

Вечар быў цудоўны. Тэрмометр паказваў — 1°. Вакол было ціха.

Раптам у свежым паветры пачулася:

— У...у... у...

Потым, пасля невялікай паўзы, адрывістае:

— У...

І адразу гучнае, працяжнае, настойлівае:

— Уху-у-у-у... Уху-у-у-у...

Сабакі занерваваліся, забегалі вакол дома. На кожнае «уху» яны заліваліся трывожным, тужлівым брэхам. Я пайшоў у той бок, дзе крычаў ці, правільней, «спяваў» сваю песню пугач. Па дарозе я кожны раз спыняўся, калі ён пачынаў сваё «уху» і шпарка пасоўваўся наперад, бліжэй да пугача, калі той змаўкаў.

Па гуку я неўзабаве знайшоў тую высокую старую яліну, на якой сядзеў пугач, але самога яго ў цемры не ўбачыў. Доўга я стаяў перад ялінай і слухаў, нібы зачараваны.

Пугач крычаў з роўнымі прамежкамі. Канцэрт яго цягнуўся б доўга, каб не вартаўнік Браніслаў. Ён прагнаў пугача двума стрэламі.

У адказ на першы стрэл пугач, нібы ў насмешку, адразу зноў зацягнуў сваё «уху». Толькі пасля другога стрэлу цёмны цень аддзяліўся ад яліны, мякка слізгануў над махнатым веццем і бясшумна знік у сінім вячэрнім змроку.

— Навошта вы стралялі? — запытаўся я ў вартаўніка.— Пугач птах не шкодны. За лета ён знішчае нямала мышэй.

— А ну яго,— незадаволена адазваўся Браніслаў.— Надакучыў. Усю ноч крычыць, як апантаны. Сабакі брэшуць, спаць не даюць.



Я папрасіў Браніслава больш не страляць, не праганяць пугача.

Амаль кожную ноч крычаў пугач на той жа старой яліне на працягу ўсяго красавіка, і я шмат разоў слухаў яго.

У старыя часы забабонныя людзі думалі, што гэта крычыць не птах, а нейкая міфічная істота — лясун. І цяпер многія лічаць яго крык жудасным, злавесным. А я мушу прызнацца, што мне ён падабаецца.

Голас пугача гучыць моцна, але мякка, крыху прыглушана, аксамітна. Ёсць у ім сапраўды нешта таямнічае, лясное, нешта вельмі сугучнае начной цемры. І на душы ў мяне заўсёды рабілася спакойна і лагодна, калі я чуў крык пугача, яго веснавы спеў. Агортвала зманлівае пачуццё, быццам усё навокал у поўнай суладнай гармоніі, усё на сваім месцы, і быццам нішто не можа парушыць адвечную трываласць светабудовы. І спалася ў такую ноч добра.

Пугач даволі лёгка прыручаецца і прывыкае да чалавека, нават праяўляе да яго прыхільнасць. На выстаўку Таварыства аховы прыроды ў Мінску прывезлі пугача з Гродзенскага заалагічнага парку. Нерухома сядзеў ён у клетцы, нагадваючы тоўстага ката. Не міргаючы, глядзелі яго вялізныя круглыя ясныя вочы бурштынавага колеру. Есці пугач адмаўляўся.



— Не есць ён таму, што трапіў у незнаёмае памяшканне, у непрывычную абстаноўку,— сказала мне наглядчыца.— Пераезд на новае месца падзейнічаў на яго дрэнна. Вось і прыходзіцца карміць прымусова.

Адной рукой яна адкрывала пугачу рот, а другой засоўвала кавалкі мяса, адзін за адным. Калі мяса трапляла ў рот, пугач яго праглынаў, а галаву ўсё роўна адварочваў.

Твар жанчыны быў перад самай дзюбай птаха, але пугач ні разу не паспрабаваў дзеўбануць яе ці схапіць руку сваёй магутнай лапай з вострымі бязлітаснымі кіпцюрамі. Ён толькі адварочваў галаву, нібы дзіця, што заўпарцілася і не хоча есці. Пратэст пугача быў пасіўны.

— Не можа ён вас параніць? — спытаў я.

— Што вы,— здзівілася наглядчыца.— Ніколі. Ён жа мяне ведае. Ніколі не кране, прывык.

У голасе жанчыны гучала ўпэўненасць.

Пугач не толькі вельмі цікавы і рэдкі, але і карысны птах. Карыснымі з'яўляюцца наогул усе совы, да сямейства якіх належыць пугач. Мышы-палёўкі, пацукі — іх асноўны корм. У начной цемры совы ловяць шкодных грызуноў з вялікім майстэрствам і спрытам, не горш чым кошкі і лісіцы.

Як добра ранняй вясной у сасновым лесе! Якое тут чыстае, празрыстае паветра! Вось прагучаў сярод зялёнай ігліцы звонкі, бадзёры спеў.

Спыніцеся і прыслухайцеся.

Вось паўтарыўся ён яшчэ і яшчэ раз.

Падыдзіце бліжэй да дрэва, адкуль чуецца простая, але меладычная песенька, і вы ўбачыце птушку з грудкай цемна-цаглянага колеру, з белымі палоскамі на крылах.

Гэта — берасцянка, якая вярнулася да нас з цёплых краёў у пачатку красавіка. Пад дрэвамі трымаюцца яшчэ дзенідзе апошнія рэшткі снегу, а яна спявае ў захапленні.

Жыве берасцянка ў сухіх хвойных і лісцевых лясах, яна не любіць вільгот-

ных і балоцістых мясцін. Вясной у сасновым лесе гэтую птушку можна пачуць ледзь не з кожнага дрэва. Раніцай берасцянкі наладжваюць тут цэлыя канцэрты.

На высокіх соснах пастукваюць пярэстыя дзятлы. З-пад пажоўклай леташняй травы і сухога лісця прабіваюцца маладыя зялёныя травінкі.

Засінелі пралескі — першыя кветкі вясны. А вось і буйныя ліловыя званочкі сон-травы з'явіліся між бярозак і ялінак. Неўзабаве можна будзе пайсці ў лес і па грыбы-смаржкі.

Пад нагамі ў нас — свежаўскапаная, выкінутая на паверхню зямля. Тут правялі свае падземныя дарогі краты. Кучкі рыхлай зямлі сустракаюцца і ў лесе, і ў садзе, і ў полі.

Крот — нястомны землякоп. Сваімі кароткімі, але шырокімі і дужымі пярэднімі лапамі і моцнымі кіпцюрамі ён лёгка пракопвае пад зямлёю складаную сістэму доўгіх хадоў.

Заўсёды злосны і галодны, крот рухаецца па гэтых хадах, шукаючы па дарозе чарвей і лічынак хрушчоў. За адзін дзень ён з'ядае столькі, колькі важыць сам. Па выкінутай на паверхню зямлі, вызваленай ад снегу і не пакрытай яшчэ свежай травой, можна вызначыць напрамак падземных калідораў крата.

Футра ў яго аксамітна-чорнага колеру. Морда вузкая і доўгая, а на канцы морды — хабаток, як і ва ўсіх насякомаедных. Вочкі ў крата такія маленькія, што іх нават цяжка прыкмеціць. Бачыць ён дрэнна, але зрок яму асабліва і не патрэбны, бо жыве крот пад зямлёй, у адвечнай цемры. Востры нюх і тонкі слых з поспехам замяняюць яму слабы зрок.

Жывучы пад зямлёй, крот прывык да вільгаці, цемры і прахалоды. У спякотны сонечны дзень ён не можа доўга заставацца на паверхні і гіне ад сонечнага ўдару. З'ядаючы шмат шкодных лічынак, крот прыносіць карысць сельскай і лясной гаспадарцы.

Над зеленавата-жоўтымі завушніцамі вярбы гудуць, трапечучы крыламі, першыя пчолы. Ажылі мурашкі. На

«сцежках», якія ідуць ад мурашнікаў, пачаўся мітуслівы рух. На вільготнай, пакуль яшчэ халаднаватай зямлі з'явіліся непаваротлівыя рапухі.

Вы ідзяце далей.

Аднекуль выпырхнула з лісця маленькая зялёная птушка. Гэта — чыжык, заўсёды вясёлы і рухавы. Вясной і ў пачатку лета вы часта можаце яго ўбачыць у сасновым лесе. Тут ён гняздзіцца і выводзіць сваіх птушанят. Калі ж малыя падрастуць і навучацца лятаць, чыжы перабіраюцца ў пладовыя сады, дзе кормяцца рознымі насякомымі, якіх у садзе больш, чым у лесе.

Неяк у пачатку чэрвеня я ўбачыў на яблыні на дзіва яркага чыжа, асветленага сонцам. Калі ён паляцеў, мне кінуўся ў вочы жоўты колер яго крыльцаў, залацісты падбой. Раней я ніколі не бачыў такой прыгожай, такой яркай афарбоўкі ў вясёлых, але з выгляду даволі сціплых чыжоў, хоць у маленстве не адзін раз трымаў іх дома ў клетцы на акне. Я задумаўся, а потым зразумеў — гэта сонца памагло ўбачыць сапраўдную афарбоўку чыжа ва ўсёй яркасці і красе. А ў гарадской кватэры клеткі з птушкамі ніколі як след не асвятляліся сонечнымі праменнямі.

На яркі колер чыжа, асветленага сонцам, звярнуў увагу і адзін аматар прыроды і птушак. Ён пісаў мне: «Ішоў я па мосціку над ручайком і раптам убачыў незвычайна яркую зялёную птушачку, маленькую, спрытную, якая сядзела на галінцы ў сонечным бліку, што прабіўся скрозь лістоту. Птушка зіхацела і ззяла фарбамі, нібы калібры. Я прыгледзеўся, бачу — чыжык сядзіць! Сонца запаліла на ім такія фарбы, што ён быў падобны на жывы ізумруд, а надхвосце ў палёце зіхацела цудоўнымі залаціста-ружовымі адценнямі!»

Вы прайшлі праз увесь лес і выйшлі ў поле. Над кустамі ля дарогі ляціць матылёк светла-жоўтага колеру — крушынніца. Высока ў небе звініць спеў жаваранка. Зямля наваколл падсохла, усюды зелянее маладая рунь.

Вы падыходзіце да сажалкі. У веснавой вадзе чуюцца аднастайныя гукі:

— У... у... у...

Гэта «вухаюць» жарлянкі — невялікія цёмныя жабкі з аранжавым брушкам, пакрытым чорнымі плямкамі.

Час ад часу ўсплываюць на паверхню вады трытоны. Пачуўшы вашы крокі, з берага ў ваду плюхаюцца вялікія зялёныя жабы.

На камень, каля самай вады, ускочыла прыгожая зграбная птушка з вузкім доўгім хвастом. У яе чорная галоўка з белымі шчочкамі і вострай дзюбкай, а ўся яна светла-шэрая.

Гэта — пліска. Яна заўсёды трымаецца каля вады. Шпарка скача непаседлівая птушка па беразе, ківаючы на кожным кроку галоўкай. Доўгі хвосцік яе то ўзнімаецца, то апускаецца. Яна ўся быццам на спружынах.

У садах свішчуць шпакі. Яны ўжо выселілі захопнікаў-вераб'ёў, адрамантавалі гнёзды, ачысцілі шпакоўні і гадуюць цяпер сваіх дзяцей.

У вясёлым спеве шпака можна пачуць і цырыканне вераб'я, і галасы другіх птушак, і мяўканне кошкі, і праразлівы свіст гарэзнага хлапчука, і розныя іншыя выпадкова пачутыя і пераняты гукі. Шпак хутка і ахвотна засвойвае ўсё, што чуе. Прыручаны, ён можа паўтараць чалавечыя словы таксама, як крумкач і папугай.

На рэках не скончылася яшчэ паводка. Рэкі выйшлі з берагоў і злучыліся ў нізінах з ляснымі рэчкамі, рачулкамі і балотамі ў адзін вялікі вадзяны прастор. Асобныя ўзвышшы ператварыліся ў астраўкі, на якіх ратуюцца ад вады лясныя звяры.

Вось сядзіць пад кустом цэлая грамадка зайцоў. Яны прытуліліся адзін да аднаго. Каля іх можна часам убачыць і лісіцу. Трывожна бегае яна па астраўку, паглядае на ваду, а на зайцоў не звяртае ніякай увагі, быццам іх тут зусім няма.

У сваю чаргу і палахлівыя, заўсёды асцярожныя зайцы нібы зусім не заўважаюць свайго лютага ворага. Перад тварам стыхійнага няшчасця і агульнай небяспекі старая, адвечная варожасць часова забыта.

Калі падплысці да такога астраўка, можна ўсіх гэтых звяркоў пабраць рукамі і пасадзіць у лодку. Яны будуць сядзець ціха і мірна, як у вядомым вершы Някрасава «Дзядуля Мазай і зайцы», пакуль лодка не наблізіцца да цвёрдай зямлі. Тады ўсе пасажыры адразу паўскакваюць са сваіх месц і, не чакаючы каманды, знікнуць у лесе, не падзякаваўшы нават за ратунак. Толькі ласі не баяцца высокай вады. Паводкі для іх не страшныя. Смела пераплываюць яны вялікія прасторы, затопленыя вадой.

Не баяцца вады і бабры. Але паводка непакоіць часам нават і гэтых прыроджаных вадзяных жыхароў. Веснавая вада разбурае гаці і грэблі, пабудаваныя бабрамі на лясных рэчках, пагражае іх хаткам. Пасля паводкі руплівыя бабры рамантуюць свае пабудовы.

Разам з веснавой вадой расплываюцца па лугах і поймах рыбы. Усю зіму правялі яны на дне рэк, азёр і сажалак у стане здранцвення. Цяпер, калі лёд сышоў і вада пацяплела, рыбы ажывіліся, плаваюць усюды і шукаюць сабе



корм, набіраюцца сілы для нерасту. Калі вада ўвойдзе зноў у берагі, многія рыбы не змогуць вярнуцца ў раку. Высахнуць пад сонцам вялікія лужыны, у якіх апынуліся яны ў палоне. Многіх рыб чакае тут пагібель ад недахопу вады, ад звяроў і птушак.

У такі час варта пайсці на паплавы з вядром ці кошыкам, пазбіраць малых рыбак і пусціць іх у рэчку. Хлапчукі, якія гэтак робяць, прыносяць карысць нашай рыбнай гаспадарцы, бо з малявак вырастуць з часам вялікія рыбы.

Тэрміны нерасту ў рыб розныя. Шчупак нерастуе ў сакавіку — красавіку; акунь, галавень і язь — у красавіку — маі; ёрш — у пачатку красавіка; плотка — у маі — чэрвені, а некаторыя рыбы і яшчэ пазней.

Ікру рыбы адкладваюць у вялікай колькасці: акунь — каля трыццаці тысяч ікрынак, плотка — да ста тысяч, карась — да трохсот тысяч, а карп — ад двухсот да пяцісот тысяч.

Найменшую колькасць ікрынак, усяго каля сотні, адкладвае маленькая рыб-



ка колюшка. Затое яна дбайна ахоўвае іх, чаго не робяць усе іншыя рыбы. Колюшка, якая вядзецца ў Нёмане, Заходняй Дзвіне і амаль ва ўсіх іншых рэках і азёрах Балтыйскага басейна, будуе для сваіх ікрынак круглае гняздо са сцяблін вадзяных раслін. Самка колюшкі адкладвае ў гэтае гняздо ікру і адплывае прэч, а самец застаецца каля гнязда. Ён абараняе ікрынкі, а потым і малявак ад ворагаў. Усе іншыя рыбы не клапоцяцца аб лёсе свайго патомства.

Шчупак, акунь, карась і карп адкладваюць ікру сярод зараснікаў вадзяных раслін. Большая частка ікрынак гіне. Толькі з нязначнай часткі іх выводзяцца маляўкі. У сваю чаргу і маляўкі знішчаюцца вялікімі рыбамі і птушкамі. З усіх бакоў пагражаюць маляўцы розныя небяспекі. Толькі вялізная колькасць ікрынак выратоўвае многія віды рыб ад канчатковага знішчэння.

Сотні, калі не тысячы цэнтнераў рыбы гіне ў час нерасту ад злачынных рук браканьераў. Малявак жа, ікрынак — і не пералічыць.

На Беларусі шмат вялікіх і малых рэк і азёр, багатых на рыбу. Для таго каб колькасць рыбы ў гэтых вадаёмах не змяншалася, а павялічвалася, патрэбны спецыяльныя мерапрыемствы. Існуюць шматлікія рыбныя гаспадаркі, у якіх выводзяць у сажалках найбольш каштоўныя пароды рыб. Прывозяцца і выпускаюцца ў натуральныя вадаёмы такія прамысловыя рыбы, якія да гэтага часу не вяліся на Беларусі, але могуць тут жыць і размнажацца.

У азёрах рэспублікі паспяхова акліматызаваліся прывезеныя сюды судак, серабрысты карась і сазан з Амура, сіг з Чудскага і Ладажскага азёраў. Але добрыя вынікі дасць гэта толькі тады, калі мы будзем адносіцца да рыбы ашчадна, разумна, па-гаспадарску.

Рыба — народнае багацце. Неабходна не толькі самім выконваць правілы і законы рыбнай лоўлі, устаноўленыя дзяржавай, але і сачыць, каб ніхто іх не парушаў. Трэба ахоўваць і рыбу, і птушак, і ўсё жывое, карыснае і патрэбнае ў прыродзе, ад драпежніцкага знішчэння.



# М А Й



І ападаў на сад са звонам
Бліскучых буйных кропель рой...
А з поўдня ехаў май зялёны
Да нас з вясёлкавай дугой.

ПІМЕН ПАНЧАНКА

Прыйшоў на змену красавіку прыгожы і вясёлы май, паэтычны месяц маладой травы, кветак і спеваў. Нездарма ў старыя часы называлі яго па-народнаму — травень.

Квітнеюць сады.

Палі і лугі ператварыліся ў стракатыя, каляровыя дываны. Усюды кветкі — і ў зялёнай, яркай траве, і на кустах, і на дрэвах.

Паветра напоена пахам чаромхі і бэзу. Над духмянымі кветкамі клапатліва гудуць працавітыя пчолы.

У траве стракочуць конікі. У бліскучых праменнях сонца робяць складаныя віражы стракозы. У свежым маладым лісці ад зары да зары не змаўкае шматгалосы птушыны хор.

У зарасніках бэзу і парэчак выводзіць свае чароўныя трэлі сціплы начны



спявак — салавей. Гэтая маленькая шэрая птушачка з такім мілагучным і моцным галаском трымаецца вільготнай мясцовасці з густымі кустамі, непадалёку ад вады.

Спяваюць берасцянкі, чыжыкі, шчыглы, дразды, пеначкі. У лесе кукуе зязюля. У полі скрыпіць драч.

Усюды радаснае, кіпучае жыццё, усюды рух, гоман, спевы.

Пазней за ўсіх вярнуліся з выраю ластаўкі і стрыжы. Увосень яны адляцелі першымі, а вярнуліся ў родныя мясціны апошнімі, толькі ў другой палове мая, і адразу ўзяліся ляпіць свае гнёзды з гліны, глею і ўласнай сліны пад стрэхамі і над вокнамі дамоў.

Стрыжы і ластаўкі кормяцца насякомымі, якія лятаюць у паветры, знішчаючы іх у вялікай колькасці. Насякомыя з'яўляюцца, калі надвор'е ўжо цёплае, і гінуць, як толькі пачынае халаднець. Ад гэтага і залежаць тэрміны прылёту і адлёту стрыжоў і ластавак.

Птушкі хутка прывыкаюць да змен у той ці іншай мясцовасці, выкліканых уздзеяннем чалавека на прыроду.

Раней ніхто не бачыў у Мінску чаек. Калі ж было створана ў горадзе штучнае возера, у тую ж вясну 1941 года, над новым вадаёмам з'явіліся чайкі, ажыўляючы пейзаж гарадской ускраіны.

Вясной 1955 года за пятнаццаць кіламетраў ад Мінска, у тым месцы, дзе рэчкі Вяча і Ратамка зліваюцца з Свіслаччу, была закончана пабудова плаціны і дамбы. Свіслач перагарадзілі. Пачалося запаўненне вадою нізіны, адведзенай для вялікага вадасховішча. Тут неўзабаве ўзнікла новае возера.

Пасля Нарачы гэта — найбольшае возера Беларусі. Агульная плошча яго дасягае каля трыццаці квадратных кіламетраў. На возеры засталося некалькі астравоў.

Стварэнне пад Мінскам вялікага вадаёма дае магчымасць юным натуралістам і ўсім аматарам прыроды рабіць новыя, цікавыя і карысныя назіранні, бо змяніўся не толькі пейзаж і характар навакольнай мясцовасці, з'явіліся новыя віды птушак і звяроў, якіх тут да гэтага часу не было.

У Мінскае вадасховішча выпушчана каля сямі тысяч аднагадовых і тры тысячы двухгадовых амурскіх сазанаў, каля васьмісот серабрыстых карасёў і шмат іншых рыб.

У маі 1955 года недалёка ад дамбы новага возера пасяліліся чайкі. З павелічэннем люстра вадасховішча павялічылася і колькасць новых жыхароў.

Прыгожа, лёгка і спрытна лятаюць чайкі над вадой. Белыя крылы зіхацяць у сінім небе.

Цяпер чаек можна ўбачыць не толькі над новым вадасховішчам, але і ў цэнтры горада, над пашыраным рэчышчам Свіслачы, ля моста на праспекце.



Чайкі — карысныя птушкі. Сваіх дзяцей яны кормяць амаль выключна шкоднымі насякомымі, якіх збіраюць на палях і лугах каля вадаёмаў. Рыбу з рэчкі яны бяруць дробную, у большасці хворую і здохлую. Кормяцца яны таксама падлінай, ловяць часам мышэй. Вядомы натураліст Брэм лічыў, што каля рыбных промыслаў чайкі маюць значэнне санітараў і што іх трэба ахоўваць.

У маі берагі рэчак і балот пакрыліся маленькімі блакітнымі зоркамі незабудак. Па вільготных лясных кутках моцна і прыемна пахнуць ландышы.

У сажалках і канавах з'явіліся апалонікі, якія праз месяц ператворацца ў маленькіх жабак. Плаваюць трытоны і жукі-плывунцы. Па паверхні вады коўзаюцца даўганогія вадамеры.

На балоцістым лузе каля рэчкі жаласна крычаць кнігаўкі. Прыляцелі яны рана, разам з жаваранкамі і шпакамі. Жывуць кнігаўкі каля вады, кормяцца чарвякамі, лічынкамі, слімакамі. У пачатку красавіка кнігаўкі выкапалі на лузе каля рэчкі невялікую ямку, і самка паклала туды чатыры зеленаватыя яйкі. Праз шаснаццаць дзён з яек выйшлі птушаняты.

Кнігаўкі — смелыя птушкі. Яны адважна бароняць сваіх дзяцей і кідаюцца заўзята на кожнага, хто набліжаецца да іх гнязда.

Па высокай ярка-зялёнай траве, недалёка ад гнязда кнігавак, паважна і маўкліва ходзіць бусел. У яго вострая і моцная дзюба чырвонага колеру. Доўгія ногі таксама чырвоныя. А сам ён — белы, толькі канцы вялікіх і шырокіх крылаў чорныя.

Бусел не мае голасу. Ён не крычыць, а клякоча — гучна і часта шчоўкае сваёй чырвонай дзюбай. Добра знаёмая нам постаць бусла вельмі характэрна для беларускага сельскага пейзажу.

Гняздзіцца бусел недалёка ад чалавека, часам нават на даху будынка ці на старым дрэве, што расце на вясковым двары. Кожную вясну бусел звычайна вяртаецца на сваё старое месца. Ён амаль зусім не баіцца людзей.

Гняздо ў бусла вялікае. Яно складзена з галля. З кожным годам гняздо робіцца ўсё большым і вышэйшым. Унутры яно выслана травой, саломай, пер'ем. Кожную вясну буслы кладуць новы подсціл. У красавіку ў гняздзе з'яўляюцца чатыры-пяць яек.

Калі самка сядзіць у гняздзе, самец прыносіць ёй з лугоў і балот корм — змей, жаб, мышэй, пацукоў, чарвякоў, лічынкі насякомых. Малыя бусляняты вылупліваюцца з яек у маі.

Мне давялося наглядаць сямейства буслоў, якое пасялілася на даху двухпавярховага паляўнічага дома, у якім я жыў у паркавым лясніцтве Белавежскай пушчы. У гняздзе было чацвёра буслянят. Бацькі дбайна даглядалі сваіх дзяцей. Яны па чарзе ўвесь дзень насілі буслянятам корм. У сонечныя спякотныя дні старыя буслы махалі над малымі крыламі, каб буслянятам не было горача, засланялі іх ад сонца і апырсквалі вадой, якую прыносілі ў дзюбах з сажалкі.

Сваіх птушанят буслы кармілі ў гняздзе каля двух месяцаў. Пад восень, калі малыя выраслі і навучыліся лятаць, яны ўсе



разам далучыліся ў пойме ракі Нарэўкі да іншых буслоў, якія сабраліся з усяго наваколля.

На шырокай паляне каля мястэчка Белавежа пасвіліся коні, а паміж іх паважна хадзілі, збіраючыся часам у купкі, маўклівыя буслы. Стваралася ўражанне, быццам яны прыляцелі сюды з усіх бакоў на нараду, на абмеркаванне плана вялікага падарожжа, якое павінна распачацца ў недалёкім будучым.

Ля берага рэчкі жыве ў невялікай норцы вадзяная землярыйка. З выгляду яна падобна на мыш, але з грызунамі не мае нічога агульнага. Землярыйка, як і крот, належыць да насякомаедных. У яе доўгая вострая мордачка, якая заканчваецца хабатком, і маленькія вочкі. Землярыйка добра плавае і нырае. Футра яе не прапускае ваду да скуры, і цела звярка ў вадзе заўсёды сухое. Спінка ў землярыйкі чорная і гладкая, нібы аксамітная, а брушка серабрыста-белае. Як і ўсе насякомаедныя, землярыйка вельмі ненасытная. Гэта хоць і маленькі, але нястомны і злы драпежнік, які безупынна знаходзіцца ў руху, шукаючы сабе здабычу.

Корміцца землярыйка не толькі насякомымі і слімакамі, яна нападае і на большых за сябе мышэй і жаб. З імі яна распраўляецца вельмі хутка, спрытна і бязлітасна. Калі сустрэнуцца дзве землярыйкі, то абавязкова кінуцца адна на другую. Дужэйшая пераможа і з'есць слабейшую. Тое самае робіць, між іншым, і крот, калі сустрэне пад зямлёй другога крата.

Вечарам выходзіць на паляванне калючы вожык. Дробным трушком бяжыць ён па сцежцы, прынюхваючыся да зямлі і да паветра. Жыве ён пераважна ў лісцевых пералесках.

Паспрабуйце крануць вожыка кійком, і ён адразу згорнецца ў калючы клубок. Ні галавы, ні лапак не відаць, з усіх бакоў тырчаць вострыя, натапыраныя іголкі.

Вожык таксама належыць да насякомаедных. Корміцца ён хрушчамі і іх лічынкамі, слімакамі, конікамі, мышамі, змеямі, птушкамі. Ён не баіцца напа-

даць на гадзюку і смела распраўляецца з ёю. Змяіная атрута дзейнічае на яго слаба.

У няволі вожык прыжываецца лёгка. Вожык, які быў у мяне, хутка прывык да жыцця ў гарадской кватэры. Ён еў мяса, хлеб, гародніну, піў малако, а мышэй лавіў не горш за кошку. Людзей вожык не баяўся, не скручваўся ў клубок, калі да яго падыходзілі, і смела браў ежу з рук.

Днём ён спаў у невялікай фанернай скрынцы, на подсціле з сухой травы і лісця, а ўночы вандраваў па кватэры, заглядваючы ва ўсе куткі. Пры гэтым ён пыхкаў, як маленькі паравоз, а кіпцюры яго задніх лапак стукалі ўвесь час па падлозе.

Па вечарах, пасля захаду сонца, гудуць у паветры майскія жукі — хрушчы. Гэта — небяспечныя шкоднікі садоў і лясоў. Пражэрлівыя лічынкі майскага жука, якія жывуць у зямлі на працягу чатырох год, аб'ядаюць карэнні раслін і дрэў, асабліва сасны. Расліны і дрэвы сохнуць. Самі майскія жукі аб'ядаюць лісце пладовых дрэў, бярозы і дуба. Хрушчоў знішчаюць гракі, шпакі, лялякі, землярыйкі, краты, вожыкі, барсукі.

Усіх пералічаных птушак і жывёл вы ўжо ведаеце, за выключэннем, можа, лелякі, ці, як яшчэ называюць яго, — казадоя.

Ці даводзілася вам калі бачыць гэтага начнога птаха?



У лесе, у вячэрнім змроку, вы можаце пачуць працяглыя загадкавыя гукі:

— Р-р-р-у... р-р-р-у... р-р-р-у...

Гэта падаў голас казадой. Гэта — яго песня.

У казадоя доўгае тулава з вялікай галавой. Дзюба невялікая, але рот вельмі шырокі, як у стрыжа і ластаўкі.

Казадой ляціць мякка і плаўна, бясшумна, як кажан. З надыходам змроку ён ловіць у паветры майскіх жукоў і розных буйных начных насякомых. Часам ён садзіцца, ці хутчэй лажыцца, на якую-небудзь старую калоду, заўсёды не ўпоперак, а ўдоўж, прыпадае да яе грудзьмі і нібы зліваецца з паверхняй калоды ўсім сваім мяккім, шаравата-бурым апярэннем.

Па афарбоўцы казадоя цяжка адрозніць ад кары дрэва. Крылы ў яго доўгія, і лятае ён добра, але лапы мае кароткія. Таму хадзіць казадой не можа і, замест таго каб сядзець,— ляжыць.

Праз хвіліну з таго месца, дзе апусціўся казадой, зноў загучыць яго роўная, але аднастайная трэль.

Несвядомыя людзі кажуць, быццам казадой смокча казінае малако. Гэта, зразумела, няпраўда. Ён корміцца толькі насякомымі. І завуць яго «казадоем» памылкова.

У сярэдзіне мая змаўкаюць салаўі. У канцы мая пачынаюць асыпацца кветкі бэзу.





# Ч Э Р В Е Н Ь



На пашы рыжыя чмялі
Загаспадарылі між кветак.
З маленькіх гладышоў пілі
Пахучы мёд — ласунак лета.

ПІМЕН ПАНЧАНКА

Адцвілі фруктовыя сады, асыпаліся ружова-белыя пялёсткі яблынь. У чэрвені — першым летнім месяцы — каласуе жыта, пачынаюць чырванець суніцы. Пахне мёдам канюшына.

Змаўкаюць птушыныя спевы.

У большасці лясных птушак вывеліся птушаняты. Клапатлівыя бацькі носяць у гнёзды чарвякоў, вусеняў, слімакоў, матылькоў, мушак. Нялёгка ім накарміць сваіх дзяцей. Сядзяць малыя ў гняздзе, шырока разявіўшы рот, і наперабой просяць есці. Толькі давай і давай! Падляціць маці, суне ў разяўленую дзюбу чарвяка і зноў ляціць па здабычу. А тут, следам за ёю, з'яўляецца бацька і таксама частуе малога жучком ці вусенем. Хапае бацькам работы!

Летні дзень вялікі, а птушаняты ўвесь час хочуць есці. Падлічана, што

адна сям'я шпакоў знішчае за дзень каля чатырохсот шкодных садовых слімакоў. А колькі яны знішчаюць вусеняў, матылькоў, жучкоў!

Вялікае значэнне мае і тое, што птушкі разносяць насенне дрэў і розных раслін. Гэтым яны дапамагаюць росту і развіццю лясоў, распаўсюджанню ягад.

Шанаваць і абараняць птушак, нашых маленькіх вясёлых сяброў і памочнікаў,— абавязак усіх юных натуралістаў і краязнаўцаў, піянераў і школьнікаў, хлапчукоў і дзяўчынак.



Трэба не толькі будаваць для птушак хаткі, але ахоўваць іх, не даваць нікому разбураць гнёзды і крыўдзіць птушанят.

Трэба ўсім тлумачыць, што птушкі не толькі цешаць сваім прывабным выглядам і цудоўнымі спевамі, але і дапамагаюць забяспечыць добры ўраджай.

У лесе, асабліва раніцаю, часта можна пачуць гучнае, вам, напэўна, вядомае:

— Ку-ку... ку-ку... ку-ку...

Гэта кукуе самец зязюлі, буйная шэрая птушка, з выгляду падобная крыху на ястраба.

У зязюлі дзіўныя звычкі, якімі яна адрозніваецца ад усіх птушак. Зязюля не мае ўласнага гнязда і не гадуе дзяцей.

Свае яйкі самка зязюлі падкідвае па аднаму ў гнёзды іншых птушак. Падпільнуе, калі птушка адляціць, і знясе сваё яйка ў чужое гняздо. Так і гадуюць

дробныя птушкі вялікіх ненажэрных дзяцей зязюлі, як сваіх уласных.

Калі зязюляня падрасце, яму робіцца цесна ў гняздзе малой птушкі, якая яго выседзела. Тады яно выкідае з гнязда на зямлю аднаго за адным усіх птушанят сваіх прыёмных бацькоў. Цяпер яму аднаму дастаецца ўвесь корм. Калі б зязюляня не выкінула птушанят, малыя птушкі не здолелі б яго выгадаваць.

Для чалавека нават і бяздомніцы-зязюлі прыносяць вялікую карысць. Адна зязюля з'ядае за летні дзень каля двух тысяч шкодных валасатых вусеняў, якіх не могуць есці малыя птушкі.

Усе птушкі падзяляюцца на птушанятных і вывадкавых.

Зязюлі, шпакі, берасцянкі, чыжы, дразды, сініцы, ластаўкі, стрыжы, шчыглы і многія іншыя птушкі, у тым ліку і ўсе драпежныя, належаць да птушанятных.

Птушаняты ў гэтых птушак нараджаюцца слабыя, голыя, бездапаможныя. Яны маюць патрэбу ў гняздзе і ў доглядзе, пакуль не вырастуць і не на-







вучацца лятаць. Увесь гэты час бацькі кормяць іх, даглядаюць і ахоўваюць.

Птушанятныя птушкі будуюць гнёзды звычайна над зямлёй, на дрэвах і кустах. Гнёзды ў іх — трывалыя, надзейныя, цёплыя, зробленыя часам па-майстэрску.

Да вывадкавых птушак належаць лясныя птушкі з сямейства курыных — глушцы, цецерукі, курапаткі, рабчыкі, вадаплаўныя птушкі — качкі, гусі і многія іншыя. Яны не маюць патрэбы ў трывалым гняздзе. Іх птушаняты з дня нараджэння бегаюць усюды за маткай і вучацца самі здабываць корм і хавацца ад небяспекі.

Гняздо вывадкавым птушкам неабходна толькі для выседжвання яек. Ледзь толькі птушаняты з'явяцца на свет, патрэба ў гняздзе адпадае. Таму гнёзды ў вывадкавых птушак простыя, нескладаныя. Знаходзяцца яны на зямлі, у невялікіх ямках між травы, пад кустамі, на лузе, у полі, на балоце.

У палях, калі пачынае каласавацць жыта, разводзіцца шмат мышэй-палёвак. На гэтых шкоднікаў палююць днём канюкі і сокалы-пустальгі, а ноччу совы.

Канюка часта можна ўбачыць на шасце ці на сухім адзінокім дрэве сярод поля. Нерухома сядзіць ён, уцягнуўшы галаву з загнутай уніз дзюбай, і нібыта спіць. Але гэта толькі здаецца. Пільна сочыць канюк сваім жоўтым вокам за тым, што робіцца ў траве. Убачыўшы палёўку, ён імкліва кідаецца ўніз і, схапіўшы кіпцюрамі шкодніка,



вяртаецца на свой дазорны пункт. За дзень гэтая птушка знішчае ў сярэднім трыццаць мышэй. Ловіць яна таксама і гадзюк.

Знішчаюць палёвак і маленькія злыя ласкі — спрытныя звяркі з доўгім тулавам на кароткіх лапках, рыжай спінкай і белым брушкам. У летні час ласкі часта жывуць у збажыне, пад кучамі каменняў, у разорах ля межаў — бліжэй да палёвак.

У ціхі летні вечар, калі заходзіць сонца, з'яўляюцца ў паветры кажаны. Няроўны, бясшумны палёт кажаноў часам палохае людзей, якія не ведаюць, што гэта сябры чалавека, што іх не трэба баяцца.

Кажаны не горш за птушак знішчаюць шкодных насякомых. За адну ноч кажан з'ядае больш трыццаці хрушчоў. Днём кажаны спяць у дуплах дрэў, пад страхою будынкаў. Яны вісяць уніз галавой, зачапіўшыся кіпцюрамі задніх лапак за які-небудзь выступ і захутаўшыся, нібы ў плашч, у перапончатыя крылы. З надыходам змроку кажаны па-



кідаюць сваё сховішча і да раніцы ганяюцца за насякомымі.

Лятаюць яны так хутка, што часам іх нялёгка і заўважыць у паветры.

А вось паўзе між градак у агародзе, ляніва адштурхваючыся заднімі лапамі, яшчэ адзін наш сябар — тоўстая непаваротлівая рапуха.

Далёка ёй да жвавай і лёгкай на скок жабы!



Лапы ў рапухі значна карацейшыя і слабейшыя, чым у жабы, таму і пасоўваецца яна марудна і скача цяжка і невысока.

Скура ў рапухі не гладкая, як у жабы, а пакрытая бугаркамі. Днём рапуха хаваецца ў цёмных і вільготных месцах — у ямах, скляпах і сутарэннях, пад мохам, між карэннямі дрэў, а вечарам, калі сцямнее, вылазіць і палюе на насякомых.

Некаторыя людзі баяцца рапух, выдумляюць пра іх розныя недарэчныя байкі, але мы з вамі добра ведаем, што непрыгожая з выгляду рапуха не толькі зусім бяскрыўднае, але і вельмі карыснае стварэнне. Яна надзейны памочнік кожнага садавода і агародніка. Дзе рапуха, там няма жыцця слімакам і вусеням. Дзе шмат рапух, там у агародзе добры ўраджай.

Рапуха жыве на зямлі, але размнажаецца, як і жаба, у вадзе. Яна кладзе сваю ікру ў невялікіх вадаёмах, і маленькія рапухі вырастаюць, як і жабкі, з апалонікаў.

Спачатку апалонік — адна толькі галава і хвост. Паступова хвосцік пачынае змяншацца, вырастаюць заднія лапкі, потым з'яўляюцца пярэднія. Нарэшце хвосцік адпадае. Апалонік ператвараецца ў маленькую жабку. Цяпер гэта жабка дыхае не жабрамі, як раней, а лёгкімі.

За апалонікамі ганяюцца дзікія качаняты. Яны, ледзь толькі вылупяцца з яйка, адразу ж пачынаюць хадзіць за маткай. На другі дзень пасля нараджэння качаняты ідуць у ваду, плаваюць між трысця, асакі і чароту, куляюцца дагары нагамі і самі здабываюць сабе корм з дна вадаёма. Качаняты ядуць і зялёную траву, і карэнні вадзяных раслін, і чарвякоў, і жабак.

У лясных і палявых птушак з сямейства курыных — глушцоў, цецерукоў, курапатак, перапёлак — птушаняты, як мы ўжо ведаем, таксама з першага дня ўсюды ходзяць за маткай, вучацца лавіць жукоў і чарвякоў, разграбаць лапкамі зямлю, збіраць зярняткі і ягады, а ў выпадку небяспекі хавацца ў траве і пад леташнім лісцем, між каменняў і камякоў сухой зямлі.

У рэках і азёрах не скончаны яшчэ нераст у плоткі і ляшча, а карась і карп у чэрвені толькі пачалі адкладаць ікру, таксама як і сом.

22 чэрвеня — самы вялікі дзень у годзе і самая кароткая ноч. Даўжыня ночы толькі чатыры гадзіны. Сонца ў гэты дзень знаходзіцца на самым вышэйшым за ўвесь год пункце неба.



# Л І П Е Н Ь



...Па-над роднаю зямлёй
Стаяла ціша. Быў вакол спакой.
У люстрах рэк пялёсткі зараніц
Плылі павольна; на палях жыты
Купаліся ў тумане; пах суніц,
Як мора, разліваўся па лясах...

КАСТУСЬ КІРЭНКА

Ліпень у нас самы гарачы месяц. Гэта — сярэдзіна лета. Дні стаяць спякотныя. Высоказзяе ў ясным бязвоблачным небе яркае сонца, і пад яго пякучымі праменнямі млее зямля.

У палях пад павевамі лёгкага ветрыку пераліваецца хвалямі каласістае жыта.

У цёплы летні вечар над вадой снуюць кволыя падзёнкі, падобныя на вялікіх камароў, з доўгімі ножкамі. Падзёнкі — прывабная здабыча для рыбы. Акуні, плоткі, язі, ляшчы выскакваюць з вады, каб на ляту схапіць падзёнку ў паветры.

У ціхай, прагрэтай сонцам вадзе плаваюць сярод зараснікаў каля берага залацістыя карасі. Яны кормяцца лічынкамі камароў, дафніямі, тванню і вадзянымі раслінамі.

На карасёў і іншых невялікіх рыб палюе ў адзіночку зубасты драпежнік — шчупак.

Маладыя акуні, такія ж пражэрлівыя разбойнікі, чародкамі плаваюць між трысця, а буйнейшыя з іх шукаюць здабычу ў глыбокіх мясцінах, хапаючы без разбору і дробных рыбак, і чарвякоў, і насякомых, і рачкоў, і ўсё, што можна праглынуць.

На самым дне вадаёма, у глыбокай і цёмнай яміне, ляжыць, як калода, вусаты сом. Ён падпільноўвае тут здабычу. Гэтая вялізная, тлустая і непаваротлівая рыбіна можа праглынуць часам і качку.

На дне вадаёма з ціхай плыннью, корпаючыся ў глеі ці хаваючыся ў зарасніках, праводзіць час і лянівы лінь.

Пад карчом каля берага, у цёмным і зацішным месцы, схаваўшы галаву ў нару, стаіць нерухома мянтуз. Улетку ўсе рыбы кормяцца, адпачываючы пасля нерасту. Толькі мянтуз у летні час нічога не есць.

У ліпені наспяваюць ягады — суніцы, чарніцы, маліна, парэчкі.

Цвіце ліпа — адсюль і паходзіць назва гэтага месяца. Пчолы напаўняюць свае соты светлым і духмяным ліпавым мёдам.

Цвіце грэчка. Там, дзе яе многа, мёд у сотах цямнейшага колеру.

У лесе кормяцца салодкімі сакавітымі ягадамі маладыя цецерукі. Яны падраслі, змянілі пух на пер'е і могуць цяпер пералятаць з месца на месца, але



пакуль што ўсё яшчэ ходзяць за маткай.

І мядзведзь частуецца ягадамі, асабліва малінай, да якой ён вельмі ласы, таксама як і да мёду.

Малыя лісяняты часта выходзяць з сваёй цёмнай нары. Яны таксама падраслі, гуляюць і спяць на сонцы. Маці вучыць іх лавіць мышэй, жабак, яшчарак, конікаў, матылькоў. Яна прыносіць лісянятам параненых птушак, мышэй, зайчанят, і малыя вучацца хапаць жывую здабычу. Кожнае з лісянят цягне здабычу сабе. Пры гэтым часта распачынаюць бойку. Перамагае дужэйшы і спрытнейшы, яму і дастаецца здабыча.

Падраслі і ваўчаняты, якія нарадзіліся ў красавіку. Спачатку яны кармілі-





ся толькі матчыным малаком. Потым бацька, вяртаючыся з палявання, даваў ім у дадатак да малака частку сваёй напаловуператраўленай здабычы. Цяпер воўк і ваўчыха пакідаюць ваўчанят у логаве адных. Ваўчаняты могуць ужо есці ўсё, што ім даюць.

Знаёмы кінамеханік з Узды прывёз мне неяк у ліпені ваўчаня. Малому было каля трох месяцаў. Ваўчаня было вельмі забаўнае. Усімі сваімі звычкамі і паводзінамі яно нагадвала сабаку. Калі я прыходзіў дамоў, ваўчаня кідалася мне насустрач, віляла хвосцікам, круцілася ля маіх ног, лажылася на спіну і, жаргуючы, злёгку пакусвала мне рукі. Ноччу яно залазіла ў ложак і спала ў мяне ў нагах.

Я карміў яго поліўкай з кавалкамі хлеба, варанай гароднінай, касцямі і ўсім, што заставалася пасля абеду. Толькі сырога мяса не даваў яму ніколі.

Ваўчаня жыло ў мяне некалькі месяцаў. За гэты час яно значна вырасла. Знікла шчанячая нязграбнасць. Гэта ўжо быў малады воўк. Яго апетыт рос з кожным днём. Ён можа з'есці ў тры разы больш, чым звычайны дваровы сабака такога ж росту. Трымаць яго ў гарадской кватэры рабілася ўсё цяжэй і складаней. Я аддаў свайго выхаванца ў звярынец.

У ваўка шмат агульнага з сабакам, які з'яўляецца яго бліжэйшым родзічам. Летам 1946 года мне давялося быць у Вялаўскім лясніцтве. Неяк цудоўным ліпеньскім ранкам маці бухгалтара лясніцтва, якая прыехала ў госці да сына з горада, выйшла на ганак. Перад самым домам стаяў вялікі сабака і, схіліўшы галаву, нюхаў нешта на зямлі. Старая здзівілася: адкуль узялася тут такая прыгожая аўчарка? Жанчына спусцілася з ганка і пайшла да сабакі.

— Хадзі, хадзі сюды! Не бойся! — голасна паклікала яна сабаку.

«Аўчарка» ўзняла галаву, паглядзела на старую ўважлівым, разумным позіркам жоўтых вачэй. Потым павярнулася і павольна пайшла ў лес.

Толькі цяпер, убачыўшы цяжкі апушчаны хвост «сабакі», жанчына зразу-

мела, што гэта была не аўчарка, а самы сапраўдны воўк.

У ліпені птушкі ў лясах і садах спяваюць рэдка. Толькі ў высокім ясным небе над палямі можна пачуць па-ранейшаму звонкі спеў жаваранка. Ды ў вяршалінах дрэў гучыць яшчэ час ад часу працяглы, чысты і мілагучны, як флейта, свіст івалгі. Галава, спіна і брушка ў івалгі яркага залаціста-жоўтага колеру, а крылы чорныя. Таму і называюць яе часам — «жаўтабрух». Гэтая прыгожая птушка вяртаецца з выраю позна — у маі, а адлятае рана — у канцы жніўня.

У большасці дробных птушак дзеці выраслі і пакінулі гнёзды. Яны вучацца лятаць, лавіць здабычу, збіраць корм, набіраюцца сілы да адлёту ў вырай. Некаторыя птушкі, у тым ліку берасцянкі і ластаўкі, гадуюць у гнёздах другі вывадак птушанят.

Пачынаецца раздолле для аматараў грыбоў. У ліпені з'яўляюцца ў вялікай колькасці, асабліва пасля цёплых дажджоў, усялякія грыбы — баравікі, пад-





бярозавікі, падасінавікі, грузды і іншыя. Збіраючы грыбы, не вырывайце іх з коранем, а зразайце ножыкам. Тады вы зможаце, запомніўшы гэтае месца, знайсці тут новыя маладыя грыбы, якія вырастаюць на змену зрэзаным.

Пад дрэвамі і кустамі трэба асцерагацца гадзюкі. Гэтая атрутная змяя даволі часта сустракаецца ў драбналессі, каля старых пнёў, вакол якіх расце маладзы хмызняк. Корміцца гадзюка мышамі і насякомымі. У гарачы ліпеньскі дзень на сцежцы сярод хмызняку часта можна ўбачыць гадзюку, якая грэецца тут на сонцы.

Гадзюкі бываюць і светлыя, і цёмныя, але на спіне ў іх заўсёды праходзіць зігзагам ад галавы да хваста густая цёмная паласа. Гадзюка вельмі злосная. Пры небяспецы яна ўзнімае галаву і верхнюю частку цела і сіпіць, а потым робіць шпаркі выпад наперад і кусае ворага. На чалавека гадзюка без прычыны не кідаецца. Кусаецца яна тады, калі ёй адрэзаны шлях да адступлення і іншага ратунку няма або калі яе патурбавалі знянацку, наступілі ёй на хвост ці дакрануліся да яе. Укус гадзюкі балючы, часам ён выклікае нават смерць. Асабліва ён небяспечны, калі ранка недалёка ад галавы.



А ці ведаеце вы, што трэба рабіць, калі гадзюка ўкусіць каго-небудзь? Перш за ўсё неабходна перавязаць руку ці нагу вышэй укушанага месца, выціснуць з ранкі кроў, каб з кроўю выйшла і частка атруты, і адразу добра прамыць ранку моцным растворам марганцу. Калі няма марганцу — гатаванай вадой. Укушанаму гадзюкай карысна піць шмат вадкасці. Гэта дапаможа хутчэй вывесці атруту з арганізма чалавека. Другой нашай змяі — вужа — можна не баяцца. Вуж — змяя неатрутная і няшкодная. Ён не кусаецца. Жыве ў



вільготнай мясцовасці, каля балот і невялікіх вадаёмаў. Афарбоўка ў яго шэра-бурая, брушка — светла-жоўтага колеру. На галаве вужа, з абодвух бакоў, дзве жоўтыя плямкі. Па гэтай адзнацы яго лёгка адрозніць ад гадзюкі. Таўшчыня тулава ў вужа амаль аднолькавая ад галавы да хваста, а ў гадзюкі сярэдняя частка цела значна таўсцейшая.

Вуж рухаецца па зямлі даволі шпарка. Ён добра плавае, выставіўшы з вады галаву. Корміцца ён галоўным чынам жабамі.

У няволі вуж хутка прывыкае да чалавека. На Палессі, дзе змей асабліва многа, у старыя часы вужы жылі ў сенцах ці пад ганкам сялянскай хаты.

Не варта баяцца і падобнай на змяю вераценніцы. Многія думаюць, што гэта — змяя. Між тым, верацenніца зусім не змяя, а бязногая яшчарка. Верацenніца, якую называюць яшчэ часам медзяніцай, не кусаецца. Зверху яна металічна-шэрага колеру, а з бакоў светла-мядзянага. Брушка ў яе сiняватае. Корміцца верацenніца слімакамі і чарвякамі.

У ліпені сушаць на лугах сена. Пад канец месяца пачынаецца жніво.

Дзікія качаняты выраслі і пакрыліся пер'ем. Яны ўжо могуць лятаць — «усталі на крыло», як кажуць паляўнічыя. Спрытныя і рухавыя, заўсёды ненасытныя, маладыя качкі ўсюды знахо-



дзяць сабе корм, але матка ўсё яшчэ даглядае і ахоўвае іх.

Яркую праяву самаахвярнай адданасці качкі сваім дзецям давялося мне наглядаць на Свіслачы.

Над ціхай затокай, берагі якой густа зараслі чаротам, вучылася лятаць маладое качаня. Раптам аднекуль збоку мільгануў падорлік. Яго няцяжка было пазнаць па хвасту веерам і па размаху крылаў. Падорлік схапіў качаня і панёс у кіпцюрах. Качка-маці кінулася падорліку наперарэз. Яна ўдарыла драпежніка ў грудзі, не даючы ляцець далей. Падорлік выпусціў качаня. Качаня ўпала ў ваду і схавалася ў чароце.

Старая качка зрабіла яшчэ некалькі кругоў над ракой, потым апусцілася на ваду і знікла ў тым жа месцы, дзе і качаня.





# Ж Н І В Е Н Ь



Яблыкі паспелі...
У ярах глыбокіх
Дацвітае лета
Цветам журавін.

Адспявалі жнеі
На палях шырокіх.
Заспяваюць скора
У небе журавы.

ПЯТРО ГЛЕБКА

Надыходзіць канец лета. На палях скончана жніво. Ідзе абмалот і здача збожжа дзяржаве. У садах спеюць яблыкі, грушы, слівы. У прыродзе адчуваецца набліжэнне восені. Сонечныя праменні ўжо не такія гарачыя. Яны цяпер толькі грэюць, а не пякуць, як у ліпені. Ночы даўжэйшыя і цямнейшыя.

Маладыя шпакі чародкамі пералятаюць з месца на месца, рыхтуючыся да выраю. Чародкі гэтыя злучаюцца ў вялікія шумныя хмары, часам па некалькі тысяч птушак. Трымаючыся паўднёвага напрамку, яны перабіраюцца з лугу на луг, ад рэчкі да рэчкі, усё далей і далей, у цёплыя краі.

Рыхтуюцца да вялікага асенняга падарожжа і іншыя птушкі нашых садоў і лясоў — чыжы, берасцянкі, дразды і шпакі.



Маладыя цецерукі па выгляду і велічыні цяпер не адрозніваюцца ад дарослых. З канца жніўня маладыя і старыя цецерукі таксама пачынаюць збірацца ў чароды. Яны трымаюцца па ўскраінах лесу, адкуль вылятаюць на суседнія палі, асабліва на грэчку. У лесе цецерукі ядуць чарніцы і брусніцы. На зіму яны нікуды не адлятаюць.

Мядзведзі кормяцца ў гэты час пераважна ягадамі, арэхамі, жалудамі, грыбамі, карэннямі. Яны варочаюць старыя трухлявыя калоды ў лясным гушчары і знаходзяць пад імі шмат усялякіх лічынак, чарвякоў і слімакоў. Часам мядзведзь выходзіць уночы на поле, калі яно недалёка ад лесу, садзіцца на зямлю і заграбае лапамі авёс, аб'ядаючы зярняты. За лета мядзведзі добра адкарміліся, зрабіліся тлустыя і гладкія. На іх пачынае расці густая пушыстая поўсць. У цёплым футры ды яшчэ з добрым запасам тлушчу пад скурай не страшна будзе мядзведзю перажыць, лежачы ў бярлозе, халодную зіму з лютымі маразамі.

Ваўкі пачынаюць хадзіць па начах на паляванне разам з маладымі вывадкамі. Шукаючы здабычу, воўк праходзіць па лясах, палях і балотах вялікія адлеглысці. Ён умее добра плаваць. На Палессі, дзе многа рэк і рэчак, ваўкі асабліва часта плаваюць, перабіраючыся нават цераз вялікія вадаёмы.

У жніўні 1946 года з парахода, які плыў па Прыпяці з Нароўлі ў Мазыр, заўважылі ў вадзе ваўка. Ён пераплываў Прыпяць зусім блізка ад парахода. На палубе ўсчалася мітусня. Капітан кінуўся ў каюту па стрэльбу. Праз некалькі хвілін ён вярнуўся на палубу і пачаў страляць па ваўку. Але стрэльба была зараджана дробным шротам, разлічаным на качак.

Воўк плыў пасярэдзіне ракі і толькі вушамі матляў, адмахваючыся ад шра-

цінак, нібы ад надакучлівых мух. Пасажыры на параходзе бачылі, як воўк даплыў да супрацьлеглага берага, выбег з вады і знік у прыбярэжных кустах.

У жніўні пачынаюць ліняць вавёркі. Летняе ярка-рыжае ўбранне яны паступова змяняюць на зімовае — шэрае.

Лінька ў вавёрак заканчваецца ў лістападзе. Зімовае футра іх цэніцца высока і мае прамысловае значэнне.

Вавёркі кормяцца цяпер арэхамі і рыхтуюць сабе запасы на зіму. Арэхі і жалуды вавёрка хавае ў глыбокім дупле старога дрэва. Прынясе арэх ці жолуд і кіне ў дупло. Робіць яна кладоўкі і пад карэннямі дрэў.

У такіх кладоўках вавёрка трымае толькі добрыя, паўнацэнныя арэхі. Яна ўмее адрозніваць арэх з добрым зернем пад шкарлупкай ад пустога ці чарвівага.

Вавёрка — дбайная і клапатлівая гаспадыня. На зіму яна нарыхтоўвае сабе не толькі запасы з арэхаў і жалудоў. Вавёрка збірае і грыбы.

Вы ідзяце па лесе і раптам бачыце на дрэве апеньку. А вось тырчыць не-





далёка ад яе на адзінокім голым сучку і другі грыбок!

Якім чынам трапілі яны сюды? Грыбы ж на дрэве не растуць, ды яшчэ так высока над зямлёй!

Хто іх тут прымацаваў?

Гэта работа вавёркі.

Грыбы сохнуць на паветры і зімой спатрэбяцца гаспадыні. Асноўным жа кормам вавёркі з'яўляецца насенне яловых шышак.

У гады, калі шышак многа, вавёркі сустракаюцца ў вялікай колькасці. Калі шышак няма, яны перабіраюцца ў другія мясцовасці, часам вельмі далёка — туды, дзе ўраджай на яловыя шышкі ў лясах багаты.

Падраслі маладыя зайцы першых вывадкаў гэтага года. Іх цяпер цяжка адрозніць ад дарослых. Старыя зайчыхі прыносяць у жніўні дзе-небудзь у пералеску, пад кустом ці ў полі апошні прыплод малых зайчанят. Зайчаняты не патрабуюць ні догляду, ні руплівага і дбайнага выхавання. Дзён шэсць пакорміць іх маці густым і тлустым малаком, а потым пабяжыць па сваіх справах, пакінуўшы малых на тым месцы, дзе яны нарадзіліся. Дні праз два-тры зайчыха вяртаецца і кліча сваіх дзетак, хлопаючы вушамі. Зайчаняты збягаюцца да маці. Яна корміць іх і зноў знікае на некалькі дзён.

Здараецца часам, што старая зайчыха, спяшаючыся да малых, сустрэне па дарозе чужых зайчанят. У такім выпадку яна ніколі іх не міне, абавязкова накорміць, не пакінуўшы малака для ўласных дзетак. Але малыя не бядуюць. Не дачакаўшыся маткі, яны знойдуць чужую зайчыху, і тая ў сваю чаргу дасць ім малака.

На восьмы ці дзесяты дзень зайчаняты пачынаюць скубці траву. Але месяцы два яшчэ, побач з раслінай ежай, яны не прапусцяць выпадку пасмактаць і малака, калі спаткаюць дзе-небудзь старую зайчыху.

З набліжэннем восені зайцы, і старыя і маладыя, пачынаюць наведваць агароды. Часам яны забіраюцца нават у пуні. Скубуць зайцы азімую рунь.



# ВЕРАСЕНЬ



Ужо верасень.
Ветры-вандроўнікі
Аж праз вокны нясуць халады.
Як шары,
Наліліся антонаўкі
І да долу прыгнулі сады.

ПЯТРУСЬ БРОЎКА

Верасень лічыцца па календары першым месяцам восені.

Сады і лясы змяняюць паступова сваю летнюю зялёную вопратку на асенняе ўбранне. Лісце на дрэвах пачынае жаўцець, набываючы розныя колеры і адценні. Сярод цёмных, вечназялёных лапак ялін і сосен зіхаціць залатое лісце бяроз, ліп, клёнаў, вольхі.

У садах паспелі яблыкі, грушы.

У высокім сінім небе не чуваць ужо над полем звонкага спеву жаваранка. Не відаць у садах ні берасцянкі, ні чыжыка, ні шпакоў. Даўно ўжо няма салаўя. Па каменнях каля рэчкі не скачуць жвавыя пліскі. Усе гэтыя птушкі паляцелі на поўдзень, і мы іх не ўбачым да наступнай вясны.

Вада ў рэчках і азёрах празрыстая і халодная.

Мянтуз пакідае сваё летняе сховішча пад берагам і пачынае жыраваць у мелкай вадзе.

Плоткі, акуні, галаўні, язі і іншыя рыбы збіраюцца ў чароды і шукаюць глыбейшых мясцін.

Толькі шчупак па-ранейшаму палюе ў адзіноцтве, але і ён, ратуючыся ад холаду, ідзе ў глыб вадаёмаў.

У пачатку восені рыбы ў рэках і азёрах харчуюцца асабліва ўзмоцнена. Яны назапашваюць тлушч, які дапамо-



жа ім перажыць зіму ў халоднай вадзе пад лёдам. З надыходам халадоў рыбы становяцца ўсё менш рухавымі і паваротлівымі.

Пакінулі свае дазорныя вышкі канюкі, пільныя абаронцы палёў ад шкодных мышэй-палёвак.

На апусцелых нівах палёўкам няма чаго рабіць. Яны перабіраюцца бліжэй да чалавека і да збожжа — у гумны, хлявы, скляпы і стайні. Следам за палёўкамі перасяляюцца сюды на зіму і ласкі. Ад маленькай і спрытнай ласкі палёўкам цяжка схавацца. Маючы доўгае гнуткае тулава на кароткіх ножках, ласка можа пралезці за мышамі ў самую вузкую шчылінку, у самую цесную норку.

Палёўкі застаюцца на зіму ў полі толькі ў тым выпадку, калі яны здолелі на працягу лета назапасіць у норках пад зямлёй дастатковую колькасць збожжа і насення розных раслін.

Перабіраюцца палёўкі і ў лес, калі там хапае арэхаў і жалудоў. Тут іх ловяць лісіцы і барсукі.

Восенню барсукі наведваюць часам агароды, дзе любяць пажывіцца морквай і буракамі.

Адкарміўшыся за лета, яны ў верасні пачынаюць рыхтавацца да халоднай зімы.

Барсукі прыводзяць у парадак нару, выкідваюць з яе рознае смецце, высцілаюць сваё логава лісцем і сухой травой, затыкаюць мохам усе выхады з нары, каб было цяплей. Адначасова яны робяць і харчовыя запасы, якімі жывяцца позняй восенню, калі не выходзяць з нары па некалькі дзён. З надыходам халадоў, звычайна ў сярэдзіне лістапада, тлустыя і лянівыя барсукі засынаюць у сваіх логавах таксама, як і мядзведзі ў бярлогах.







Чародамі збіраюцца на балотах у верасні дзікія качкі і жыруюць, рыхтуючыся да выраю.

Маладыя жоравы таксама збіраюцца разам з бацькамі ў вялікае падарожжа. Яны вучацца лятаць строем, трохкутнікам і, пакінуўшы роднае балота, дзе нарадзіліся і выраслі, робяць для практыкі пробныя палёты над ваколіцамі.

Харчуюцца жоравы цяпер не толькі на балотах, дзе яны ядуць розных чарвякоў, лічынак, жабак і карэнні балотных раслін, але і на палях. У канцы лета і ў пачатку восені яны трымаюцца бліжэй да палеткаў, куды прылятаюць харчавацца на золку. Асабліва любяць яны гарох.

Адлятаюць жоравы ад нас у кастрычніку. Гучным крыкам, нібы баявымі трубамі, абвяшчаюць яны ўсяму свету аб тым, што пачынаюць свой вялікі пералёт у цёплыя краі на зімоўку. Адзін за адным, у стройным парадку, узнімаюцца ў паветра і адразу набіраюць вышыню трохкутнікі жораваў. На чале кожнага кліна ляціць стары вопытны павадыр. Ляцяць яны высока над зямлёй. Першы вялікі прыпынак жоравы робяць у вусці Дуная. Так далятаюць яны да Егіпта.

На чужыне, у час зімоўкі, жоравы трымаюцца разам, вандруючы ўздоўж рэк. Яны дабіраюцца ўверх па Ніле аж да вытокаў яго ў Судане і Эфіопіі. Потым ляцяць назад і з надыходам вясны вяртаюцца на радзіму.

Набліжаючыся да родных мясцін, жоравы разбіваюцца на асобныя групы, а далей — на пары і гняздзяцца на балоце, дзе нарадзіліся, на купінах, каб можна было з вышыні свайго гнязда агледаць ваколіцы...

У верасні ночы становяцца халоднымі. Раніцой на траве, на лістах хмызняку зіхацяць буйныя кроплі халоднай і чыстай расы. Над балотамі, над паплавамі сцелецца густы туман.



# К А С Т Р Ы Ч Н І К



Восень прала кужаль тонкі —
Павуціння белы лён;
Восень шэрыя заслонкі
Моўчкі клала на адхон.

ЯКУБ КОЛАС

У прыродзе ўсё больш адчуваецца восень.

Лісце на дрэвах пажоўкла. На фоне залатых лістоў бярозы і клёна ярка чырванеюць ягады рабіны — любімы корм драздоў. Дразды спрыяюць распаўсюджванню рабіны. Частку ягад яны, калі харчуюцца, скідваюць незнарок на зямлю. Пералятаючы ў пошуках корму з месца на месца, дразды за дзень перасоўваюцца на дзесяткі і сотні кіламетраў і пераносяць у страўніках насенне рабіны. Яно застаецца непашкоджаным, бо мае моцную і трывалую абалонку. Такім чынам дразды заносяць рабіну ў вельмі далёкія мясціны, дзе дагэтуль яна не расла. Часам насенне трапляе ў новыя мясціны і ў камячках гразі, якія прысохлі да лапак птушкі, а потым адваліліся. Там насенне прарастае, і мы ба-

чым маладзенькія рабінкі далёка-далёка ад старых рабін.

Парывы ветру зрываюць з дрэў лісты, усцілаючы зямлю пярэстым чырвона-жоўтым дываном. Толькі з магутных дубоў доўга яшчэ не ападае лісце. Дубовы ліст моцны і трывалы. На некаторых дубах жоўтыя лісты захоўваюцца аж да самай вясны.

Надвор'е псуецца.

Павялічваецца колькасць пахмурных дзён, усё часцей цярушыць дробны, зацяжны дождж.

Але і ў кастрычніку, асабліва ў пачатку месяца, устанаўліваецца часам добрае сонечнае надвор'е.

У такія дні ў ясным і празрыстым паветры плывуць тонкія ніці павуцінак з маленькімі павучкамі-вандроўнікамі.

На сінім высокім небе — ні хмаркі. Лагодна свеціць сонца. Цёпла і суха. Зноў расцвітаюць некаторыя расліны. З'яўляецца свежая зялёная траўка. З-пад кары дрэў, з розных шчылін вылазяць днём насякомыя, якія схаваліся на зіму.

Дзе-нідзе лятаюць на сонцы матылькі і стракозы.

«Бабіна лета» — так называюць у народзе гэтыя цудоўныя дні залатой восені.

Вы ідзяце па лясной прасецы. Абапал кусты арэшніку, кранутыя бледнай жаўцізной.

З кустоў, аднекуль знізу, выпырхнула раптам маленькая птушка і села на галінку.

Спыніцеся, паглядзіце на крапіўніка!

Маленькая бадзёрая і рухавая птушка, карычняватая, з дробнымі кропкамі і цёмнымі хвалістымі папярочнымі рыс-



камі зірнула на вас з цікавасцю. Кароткі хвосцік яе стромка ўзняўся ўгару.

Крапіўнік безупынна круціцца на галінцы куста. Бойкі, вёрткі і кругленькі, нібы арэшак, ён шпарка паварочваецца ва ўсе бакі, пазіраючы на вас то адным, то другім вочкам. Нездарма яго часам так і называюць — арэшак. І ўвесь час хвосцік яго тырчыць задзірыста ўверх.

Потым пачулася рэзкае, траскучае:

— Цік-трык-трык-тр-р-р-р...

Крапіўнік зляцеў з галінкі і з гучным трэскам шмыгнуў пад куст, у самы гушчар.

Трымаецца крапіўнік у зарасніках крапівы, таму ён і атрымаў такую назву, у кустах маліны і арэшніку, у папараці і сярод сухога галля. Спрытна прабіраецца ён скрозь густыя спляценні хмызняку, пералятае з адной кучы галля на другую, шнырае, нібы мышка, між карэннямі дрэў, заглядвае ва ўсе шчыліны і ямкі, — усюды ловіць насякомых.

Крапіўніка можна бачыць у нас і вясной, і летам, і восенню, і зімой, бо маленькая непаседлівая птушка з востранькай дзюбкай і кароткімі крыльцамі ніколі не пакідае тую мясцовасць, дзе нарадзілася і вырасла.

У канцы красавіка ці ў пачатку мая крапіўнік будуе гняздо з моху, сухіх сцяблінак і лісцікаў. Круглае, нібы шар, з невялікай адтулінай збоку для ўваходу, яно знаходзіцца звычайна сярод зараснікаў папараці, маліны і дзікага хмелю — проста на зямлі ці ў кустах ядлоўцу, невысока над зямлёй. Часам гняздзіцца крапіўнік і ў такіх ненадзейных мясцінках, як куча галля, між складзеных дроў, сярод карэнняў вываратня. Таму ў некаторых мясцовасцях крапіўніка называюць яшчэ і падкарэннікам.

Ночы ў кастрычніку цёмныя і халодныя. Ранішнія лёгкія замаразкі пакрываюць срэбрам траву і жоўтае лісце на зямлі, зацягваюць маленькія лужыны тонкім і крохкім шклом.

На сенажаці, нават у сонечны дзень, не відаць ні жабак, ні яшчарак. Ратуючыся ад надыходзячых халадоў, зялёныя

жабы зашыліся ў твань, схаваліся пад берагам рэчкі ці сажалкі, а травяныя жабы і жвавыя спрытныя яшчаркі пахаваліся пад мохам і карэннямі дрэў, пад галлём і сухім лісцем на зямлі і заснулі на ўсю зіму.

У здранцвенні, без ежы, правядуць яны халодны зімовы час. Калі ж якая з іх замерзне — такой бяды! Ёй гэта не пашкодзіць.

З надыходам цяпла яна адтае, сэрца пачне біцца зноў, жабка ці яшчарка ажыве і заварушыцца. Гэтак жа зімуюць і змеі, і трытоны, якія яшчэ раней пакінулі вадаёмы.

Пад канец лета трытонаў можна сустрэць далёка ад вады. Трытоны пераносяць зімовыя халады ў тым жа стане здранцвення, што і жаба.

З восені пачынае рыхтавацца да зімовай спячкі вожык. Ён выбірае сабе дзе-небудзь пад галлём ці пад кустом зручную ямку. Сюды прыносіць сухую траву, мох, лісце. З надыходам зімы вожык залазіць у ямку і засынае. Спіць ён да сакавіка.

Крот зімою не спіць. У сваіх падземных калідорах ён знаходзіць сабе дастаткова корму і тады, калі зямля пакрыта снегам.

Ціха і сумна ў лесе. Хіба толькі крыкне прарэзліва сойка, ды час ад часу стукне па дрэве дзяцел.

На зіму дзяцел нікуды не адлятае.

Цэлы дзень, ад рання і да ночы, дбайна і цярпліва выстуквае «лясны доктар» ствалы дрэў. Сваёй моцнай і вострай дзюбай ён выганяе з-пад кары і нават з самой драўніны караедаў, пільшчыкаў, даўганосікаў і іншых шкодных насякомых і знішчае іх.

У нашых лясах шматлікае сямейства дзятлаў прадстаўлена некалькімі відамі. Самы буйны з іх — чорны дзяцел, ці, як яго яшчэ называюць, жаўна.

Гэта даволі вялікая птушка, большая за галку. Уся яна з галавы да ног чорная. Толькі на галаве ў жаўны чырвоная шапачка. Гняздзіцца чорны дзяцел у дуплах старых дрэў.

Далёка па лесе разносіцца яго рэзкі, высокі і звонкі крык:

— Пр-пр-пр-пр-пр-пр-ы-ы-і-і..

Часам ён выкрыквае працяжна, нібы лямантуе жаласна:

— Кі-і-і-і-ій!

Крык жаўны можна пачуць у старым і глухім хвойным лесе вясной, восенню, а часам і зімой.

Жаўна пазбягае чалавека і трымаецца звычайна там, дзе людзі бываюць рэдка і дзе яе цяжка заўважыць.

Затое часта можна ўбачыць пярэстых дзятлаў. Апярэнне іх стракаціць чорным, белым і чырвоным колерамі. У лісцевых лясах сустракаецца часам і зялёны дзяцел.

Дзятлы прыносяць нашым лясам вялікую карысць.

У сухім сасновым бары сінеюць верасы. Толькі над імі і можна яшчэ ўбачыць цяпер у сонечны дзень руплівую пчалу. На кветках верасу яна заканчвае свае апошнія нарыхтоўкі ў гэтым годзе.

Пад цёмнымі елкамі чырванеюць на зялёным моху брусніцы. На балоце спеюць журавіны. Імі пачынаюць карміцца цецерукі.





Глушцы трымаюцца цяпер паблізу асінніку. Яны скубуць асінавы ліст, пераходзячы з лёгкіх летніх харчоў на зімовыя.

Летам глушцы любяць змешаны лес з палянамі, з мохам і ягадамі, бо ягады ў гэты час іх асноўны корм. На зіму глушцы перабіраюцца ў хвойны лес, дзе кормяцца мяккімі зялёнымі шыпулькамі.

Ішоў я неяк кастрычніцкай раніцой уздоўж невялікага балота на ўскрайку лесу. Зямля ноччу крыху падмерзла. Зялёныя ўсходы азімай руні на суседнім полі серабрыліся інеем. У блакітным небе свяціла няяркае сонца.

Я падышоў да самага берага балота з нізкарослымі сасонкамі і бярозкамі, з кустамі лазы, каб паглядзець, ці плавае пад тонкім лёдам дробная вадзяная жыўнасць Спыніўся на хвілінку каля старой вярбы.

Аднекуль знізу, недалёка ад мяне, пачулася нягучнае, але настойлівае:

— Кірыць-кірыць...

З зямлі, з-пад кучы хворасту, узлясела раптам цэлая чародка курапатак. Іх было не менш дзесяці.

Гэта быў сёлетні вывадак.

Маладыя курапаткі былі ўжо дарослыя, але трымаліся яшчэ разам, на чале з маткай. Яны не адрозніваліся ад маткі ні велічынёю, ні знешнім выглядам, але па-ранейшаму падпарадкаваліся ёй, слухалі яе загады.

У апярэнні курапатак пераважаў шэры колер. Толькі галава і шыя былі карычняватыя.

Хвасты пры ўзлёце нагадвалі кароткія рыжыя вееры. З шумам знікла ўся чародка ў кустах.

Я праводзіў курапатак здаволеным позіркам. Прыемна было іх убачыць. Гэтыя невялічкія птушкі з сямейства курыных прыносяць нам бясспрэчную карысць, бо кормяцца і шкоднымі для сельскай гаспадаркі насякомымі, і насеннем рознага пустазелля.

Вельмі часта курапаткі гняздзяцца ў збожжы на полі і на лузе з хмызнякамі. У час ранняга сенакосу шмат наседжаных імі яек гіне.

У Чэхаславакіі, каб не змяншалася колькасць курапатак, збіраюць вясною ў палях яйкі гэтай птушкі і выводзяць птушанят у інкубатарах. Потым трымаюць іх некаторы час на двары пад наглядам прыручанай дарослай курапаткі. Калі малыя пройдуць патрэбны «курс навучання», іх выпускаюць на волю. Частку птушанят пакідаюць на фермах.

У выніку такіх разумных мерапрыемстваў курапатка зрабілася ў Чэхаславакіі распаўсюджанай прамысловай птушкай.

Можа, і нам варта гэтак рабіць?

Ноччу выюць у лесе ваўкі. Восенню і зімою ваўкі вядуць вандроўнае жыццё. Пакінуўшы свае логавы, яны ходзяць цэлымі вывадкамі. Воўчае кодла складаецца з ваўка, ваўчыхі і ваўчанят.

З надыходам халадоў белабокія сарокі трымаюцца каля вёсак. Тут ім лягчэй пракарміцца.

По зялёных калючых галінках маладой яліны перапырхваюць, ледзь чутна папіскваючы, маленькія каралькі. Прыемна глядзець на мілых мініяцюрных птушак з такім пяшчотным, меладычным галаском:

— Сі-сі-сі...

Гэтую песеньку, калі можна лічыць песенькай ціхі тоненькі піск, я чуў не адзін раз у лесе пад Мінскам і ўвосень, і зімой, у марозныя, снежныя дні, і заўсёды з яліны. Каралёк, самая маленькая з нашых птушак, нікуды ад нас не адлятае.

Глядзіце, які ён прыгожы! Верх у каралька зялёны, грудка шараватая. На кароткіх крыльцах светлая палоска. Уздоўж галоўкі з маленькай, тоненькай дзюбкай праходзіць яркая чырвона-аранжавая палоска, акаймаваная па баках дзвюма чорнымі. За гэтую залатую, агністую «каронку» яго і празвалі каральком. Зялёная афарбоўка каралька зліваецца з зялёнай хвояй яліны.

Маленькая птушка каралёк, і гняздзечка ў яго маленькае. Зробленае з шыпулек, сцяблінак, моху, павуціння і конскага воласу, знаходзіцца яно на яловай лапе. У гэтым гняздзечку ў маі, а потым і ў ліпені з'явіліся ружовенькія яй-

кі, кожнае велічынёю з гарошыну. За лета птушаняты абодвух вывадкаў выраслі і трымаюцца зімой адной вясёлай чародкай разам з бацькамі і суседзямі.

Вясёлыя і жвавыя каралькі заўсёды ў руху. Уважліва аглядаюць яны кожную шыпульку, спрытна і нястомна ачышчаюць хвою ад дробных, амаль непрыкметных насякомых, ад іх яек і лічынак. Гэтай сваёй санітарнай дзейнасцю каралькі вельмі карысныя для лясной гаспадаркі.

Маленькія рухавыя птушкі так ажыўляюць зімовы пейзаж! Глядзіш на вясёлую мітусню каралькоў, слухаеш іх тоненькі піск сярод халоднай маўклівасці заснежанага лесу, і здаецца, што зрабілася цяплей. І мароз нібыта не такі ўжо суровы.

Восенню на дварах каля хат з'яўляюцца вясёлыя сініцы. Часам у адной чародцы з вялікімі сіне-жоўта-зялёнымі сініцамі знаходзяцца і іншыя прадстаўнікі гэтага сямейства. Тут і крыху меншая блакітніца, і маленькая цёмна-шэрая маскоўка, і грэнадзёр з чубікам на галоўцы, і даўгахвостая сініца, ці апалонаўка. Усе яны жвава скачуць па дрэвах і па зямлі.

Розных насякомых, якія пахаваліся ад холаду, іх яйкі і лічынкі сініцы знаходзяць у шчылінах плота, між бярвенняў хаты, пад страхой, між гонтамі, на падаконніку і аканіцах, пад карою дрэў на двары. Гэтыя цікаўныя задзірыстыя птушкі мала баяцца чалавека.





# ЛІСТАПАД



Зямлі не адагрэць
Агнём ліствы апошняй.
І ветру песні пець
Над парыжэлай пожняй.

У хмарах далячынь,
Прасцяг дажджамі повен.
Не плавае ўначы
Маладзіковы човен.

ПІМЕН ПАНЧАНКА

Лістапад — самы пахмурны месяц у годзе.

Нізкае неба амаль заўсёды зацягнута шэрымі хмарамі. Дзень за днём ад раніцы да вечара — слата, вецер, холад, часам выпадае мокры снег.

Пад дажджамі і ветрам ападаюць з дрэў апошнія пацямнелыя лісты. Дрэвы ў садах і лясах стаяць чорныя, голыя, мокрыя. Адны толькі елкі ды сосны ніколі не губляюць сваёй адвечнай зялёнай красы.

Рэзка крычаць і сварацца неспакойныя мітуслівыя сойкі. Цяпер, у рэдкім лесе, сярод голых дрэў, сойкі часцей трапляюцца нам на вочы.

Вось адна з іх апусцілася на лясную сцежку і шукае нешта сярод чорных, жоўтых, чырвоных і карычневых лістоў на зямлі. Вы добра бачыце светла-



бурую шыю, грудку і спінку, блакітныя і белыя палоскі на крылах і цёмны хвост.

Заўважыўшы вас, сойка прытаілася. Па колеру і тону яе верха сойку цяпер нялёгка адрозніць ад восеньскіх лістоў, што так густа пакрываюць зямлю. Вы страцілі яе з поля зроку. Няўпэўнена зрабілі два-тры крокі наперад. Сойка шумна ўспырхнула і паляцела прэч, незадаволена крыкнуўшы. І тут вы адразу ўбачылі, што знізу крылы ў яе — белыя.

Не адзін раз, напэўна, заўважалі вы, што ў лесе бывае часам шмат маладых дубкоў і ні аднаго старога дуба. Якім жа чынам трапілі сюды жалуды, з якіх выраслі маладыя дубкі?

Жалуды занеслі сюды сойкі.

З надыходам восені заклапочаныя сойкі робяць нарыхтоўкі жалудоў і арэхаў, харчовых запасаў на зіму. Яны зрываюць спелыя жалуды з галін старога дуба, падбіраюць і тыя жалуды, што ўпалі на зямлю. Сойкі хаваюць жалуды пад мохам, сярод галля, каля старых пнёў і ў іншых схованках, вядомых толькі ім.

Здараецца, што ляціць сойка з жолудам у дзюбе за дзесятак кіламетраў ад таго месца, дзе яго падабрала, каб схаваць на зіму. Ляціць яна, а па дарозе нешта яе спалохае ці здзівіць. Сойка крыкне і выпусціць жолуд з дзюбы. Бывае і так, што забудзецца сойка на які-небудзь са сваіх харчовых складаў ці загіне заўчасна, і склад яе застанецца невядомым нікому. Жалуды, якія схавала сойка ў розныя патаемныя мясцінкі, перазімуюць пад снегам і вясной прарастуць. Вось і з'явяцца маладыя дубкі там, дзе старых дубоў няма вакол на вялікай адлегласці.

У лесе ўжо няма грыбоў.

Лістапад — апошні месяц восені. Але здараецца



і так, што выпадзе ў лістападзе снег, замерзнуць азёры і рэкі, і зіма пачнецца раней, чым вызначана ёй па календары.

А часам бывае і наадварот — спозніцца надыход зімы. Тады і ў снежні, першым зімнім месяцы, трымаецца такое ж восеньскае надвор'е, як і ў лістападзе, з яго дажджом і граззю.

У лістападзе кладзецца ў бярлогу мядзведзь. У гэты час засынаюць таксама ў сваіх норах барсукі. Лісіцы мышкуюць у палях. Вавёркі змянілі сваё летняе футра на зімняе і з рыжых зрабіліся шэрымі.

Маленькая злая ласка і блізкі сваяк яе гарнастай апранаюцца на зіму ў белае футра. Толькі ў белага гарнастая кончык хваста застаецца чорны. Гэтым ён адрозніваецца ў сваім зімовым убранні ад ласкі.

Зайцы-русакі трымаюцца цяпер бліжэй да чалавечага жылля. Зайцы-белякі змяняюць у лістападзе сваё летняе рыжавата-бурае футра на зімовае — белае і пушыстае. У гэтым ахоўным адзенні іх не лёгка заўважыць на снезе.

Лісіцы восенню і зімой таксама часта жывуць блізка ад чалавека. Толькі мы іх не заўважаем, бо звяры ўмеюць добра хавацца. Мы іх не бачым, а яны непрыкметна сочаць за кожным нашым крокам.

Сталовая аднаго невялікага дома адпачынку знаходзілася ў самым лесе. У повара сталовай быў сабака Альтон, з выгляду падобны на лайку — вушы тырчком, сам белы, а носік чорны, хвост закручаны абаранкам. Неяк у пачатку лістапада знайшоў Альтон недалёка ад сталовай лісіную нару. Залез ён у адтуліну напалову і пачаў раскопваць далей. Раптам выскачыў з запаснога ходу стары ліс. І не падумаў ён уцякаць, а смела кінуўся на Альтона ззаду. Як тут заекатаў Альтон, як завішчаў! Крыку было на



ўвесь лес! Штосілы пабег ён да сталовай, а ліс за ім, кусаючы сабаку за лыткі.

Перапалоханы Альтон уляцеў праз адчыненыя дзверы на кухню і схаваўся там за нейкай скрыняй. Толькі тады ліс спыніў пагоню, павярнуў назад і, махнуўшы хвастом, знік у лесе.

Нара, якую знайшоў Альтон, знаходзілася ад сталовай метраў за пяцьдзесят — шэсцьдзесят. І ліс, відаць, лічыў такое суседства зручным.

Магчыма, нара не была яго сталым логавам. Можа, гэта быў толькі назіральны пункт ліса — месца, адкуль кемны звер мог сачыць за тым, што робіцца каля сталовай. Тут мог ён цярпліва чакаць зручнага моманту, каб падабрацца бліжэй да кухні. Тут мог ён і адпачыць, і схавацца ў час небяспекі. Лісіцы





маюць па некалькі такіх запасных сховішчаў на сваім паляўнічым участку.

Ва ўсякім выпадку, жылося лісу каля сталовай зусім нядрэнна. Кожную ноч жывіўся ён аб'едкамі і адкідамі на сметніку каля кухні. Нездарма быў ён такі дужы, гладкі і смелы. Трэба сказаць, што знаходзілася сталовая за дваццаць кіламетраў ад Мінска, недалёка ад шумнай дарогі з вялікім рухам.

У лістападзе адлятаюць на поўдзень апошнія дзікія качкі. Але часам здараецца, што асобныя з іх застаюцца зімаваць у нас на рэчках і азёрах, там, дзе вада замерзла не ўсюды.

Ва ўмовах цёплай зімы, калі замярзаюць не ўсе вадаёмы і вадаплаўныя птушкі могуць здабываць сабе корм, застаюцца часам на месцы і дзікія гусі. У пачатку студзеня 1952 года дзікіх гусей бачылі на тэрыторыі Навадворскага сельсавета Мінскага раёна.

Цецерукі жывуць у гэты час пераважна ў бярэзніках. Позняй восенню яны кормяцца ягадамі ядлоўцу, а з надыходам зімы пупышкамі бярозы.

Доўгімі і цёмнымі восеньскімі начамі цецерукі спяць у лясных зарасніках, невысока над зямлёй. Калі ж снег густа і шчыльна пакрывае зямлю, яны начуюць у глыбокім снезе.

Вечарам, з надыходам цемры, цецерукі адзін за адным падаюць, нібы нежывыя, з ніжніх галін дрэва ў сухі пушысты снег. Не пакідаючы слядоў на паверхні, яны пракладаюць сабе глыбокія хады ў снезе і спяць пад яго цёплым і мяккім покрывам. Пры першай трывозе гэтыя дзікія лясныя куры з шумам узлятаюць з-пад снегу ў паветра.





# СНЕЖАНЬ



Дарожкі і сцежкі занесла віхура,
Не знаць, дзе балота, дзе лог, дзе папар;
, выйшаўшы з лесу, скуголіць панура,—
Каб чым пажывіцца,— пакінуў гушчар.

ЯНКА КУПАЛА

Прыйшла зіма. Падаюць з неба чыстыя белыя пушынкі, усцілаючы зямлю мяккім снежным покрывам. Замерзлі спачатку сажалкі і азёры, а потым і рэкі.

Рыбы пад лёдам трымаюцца ў глыбокіх месцах у стане здранцвення. Плоткі, ляшчы і многія іншыя ляжаць нерухома ў ямах на дне рэк і азёр, паўсонныя, ахутаныя слiззю, якая ахоўвае іх ад холаду.

Кожны від рыбы зімуе асобна ад іншых. Плоткі трымаюцца разам з плоткамі ў адным месцы, ляшчы разам з ляшчамі ў другім. Карасі і ліні зімуюць, закапаўшыся ў глей на дне вадаёма.

Шчупак і зімой плавае пад лёдам і палюе на іншых рыб, але не так спрытна і жвава, як улетку. Акуні ў пошуках здабычы і свежага паветра выплываюць часам на паверхню вады ў палонках.

Мянтуз любіць халодную ваду і адчувае сябе зімою лепш, чым летам. З надыходам халадоў ён робіцца больш рухавым і дзейным. У марозны зімовы час, у канцы снежня і ў пачатку студзеня, мянтуз нерастуе. Ікру ён адкладвае ў глыбокіх месцах, на пясчаным дне.

У гэты ж прыблізна час пачынаецца нераст і ў вугра, які вядзецца ў возеры Нарач, у Нёмане, Заходняй Дзвіне і ў іншых рэках і азёрах, звязаных з Балтыйскім морам. Сваю ікру гэтая дзіўная рыба адкладвае не там, дзе жыве, а ў Атлантычным акіяне, у Саргасавым моры, ля берагоў Амерыкі. Для таго каб трапіць туды, вугор робіць далёкае і небяспечнае падарожжа, з якога не вяртаецца назад.

У канцы зімы з ікрынак вугра развіваюцца маляўкі. Цёплае цячэнне Гальфстрым адносіць іх цераз Атлантычны акіян да паўночна-заходніх берагоў Еўропы.

Гэтае падарожжа малявак цягнецца тры гады. Пад канец яго з малявак вырастаюць маладыя вугры.

Вясной, на чацвёрты год свайго жыцця, вугры заплываюць з мора ў рэкі. Самцы застаюцца ў нізоўях ракі, а самкі плывуць далей, уверх па цячэнню, упарта пераадольваючы ўсялякія перашкоды.

Вандруючы, вугор перабіраецца часам з аднаго вадаёма ў другі па зямлі. Нібы змяя, выгінаецца ён па вільготнай траве лугоў, па канавах і робіць такім чынам па некалькі кіламетраў.

У рэках і азёрах вугры жывуць ва ўзросце ад чатырох да дзесяці год. На дзесятым годзе яны адпраўляюцца, як і іх бацькі, адкладваць ікру ў Саргасава мора. На гэтым іх жыццё заканчваецца.

Вугор адрозніваецца ад усіх іншых нашых рыб сваімі дзіўнымі звычкамі і сваім знешнім выглядам. Формаю цела ён вельмі падобны на змяю і, калі плыве, робіць у вадзе такія ж рухі, як і змяя.

Вугры кормяцца ноччу насякомымі, лічынкамі, рыбкамі, жабкамі і наогул любым мясам, якое могуць знайсці ў вадзе.

Днём яны ляжаць на дне, зашыўшыся ў глей ці пясок і высунуўшы адтуль толькі галаву і хвост.

Гэтая цікавая рыба мае прамысловае значэнне. Тлустае мяса вугра вельмі смачнае. Яно ўжываецца звычайна ў вэнджаным выглядзе.

У пачатку снежня скідаюць рогі ласі і казулі. У гэты час яны ходзяць па лясных нізінах невялікімі статкамі. Рогі ў іх, таксама як і ў аленяў, штогод аднаўляюцца. Замест старых, скінутых, вырастаюць новыя. Толькі алені скідаюць рогі пазней, у лютым ці ў пачатку сакавіка.

Калі алень дужы і малады, рогі ў яго з кожным годам робяцца багацейшыя і мацнейшыя. Колькасць новых адросткаў на іх павялічваецца. У снежні алені, як і ласі, і казулі, збіраюцца невялікімі статкамі. У зімовы час усе яны кормяцца карою і галінкамі маладых дрэў.

У канцы 1966 года я атрымаў пісьмо з Будслава Мінскай вобласці. У гэтым пісьме былі цікавыя, невядомыя мне раней звесткі адносна лекавых уласцівасцей ласінага рога. Аўтар пісьма паведаміла, што калісьці, вельмі даўно, жыў у ваколіцах Будслава чалавек, які лячыў людзей нейкім «каменем» ад укусаў ша-



лёнай жывёлы. «Ад'язджаючы, ён перадаў той «камень» мясцовай памешчыцы. Яна не захацела гэтым займацца і аддала «камень» майму прадзеду Тамашу — ён быў дьаровым прыгоннікам у маёнтку. Ад прадзеда «камень» перайшоў да дзеда Зыгмуся. Дзед яго разрэзаў на чатыры часткі і падзяліў між сваіх дзяцей. Адзін такі кавалак, прыблізна ў паўтара-два квадратных сантыметры, знаходзіўся ў майго бацькі. Колер яго быў бронзавы з зялёна-жоўтымі адлівамі, а па вазе значна лягчэйшы за камень таго ж памеру. Мы не ведалі, што гэта такое, і называлі яго проста «камень».

Нешта ў пачатку 900-х гадоў адзін селянін-бядняк прывёз да нас свайго чатырнаццацігадовага сына, якога ўкусіў шалёны сабака за кісць рукі. Селянін ад кагосьці дачуўся, што ў бацькі ёсць спосаб лячэння, і прасіў бацьку вылечыць яго сына. Бацька ўжо ведаў пра пастэраўскія прывіўкі і адмаўляўся лячыць немаведама чым. Але такія прывіўкі ў той час рабіліся толькі ў двух гарадах Расіі. А дзе ж беднаму селяніну ўзяць грошы на далёкае падарожжа і лячэнне? Ён пакінуў свайго сына ў нас: «Хай жа ў вас і памірае!», а сам цішком уцёк у сваю далёкую вёску. Мой бацька паспрабаваў лячыць.

«Камень» меў уласцівасць прысмоктвацца да цела ў тым месцы, дзе расплылася атрута шаленства. Пачалі прыкладваць «камень», пачынаючы ад сэрца. На грудзях «камень» не трымаўся. Толькі ніжэй плечавога сустава параненай рукі злёгку прысмактаўся. Наймацней ён прысмоктваўся бліжэй да пакусанага месца. «Камень» туга абвязалі, каб не згубіўся, і трымалі, пакуль не адваліцца. Як толькі «камень» насмокчацца атруты і адваліцца, бацька клаў яго ў рандэлічак з малаком і доўга вываўрваў, пасля чаго «камень» зноў набываў уласцівасць прысмоктвацца. Малако вылівалася ў агонь, а рандэлічак шчыльна пакрываўся гаршком, каб ні мыш, ні муха не залезлі ў яго. З кожным разам «камень» прыкладаўся, аж пакуль нідзе не прысмоктваўся. Рабілі перапы-

нак на дзень-два, а калі потым хоць крыху дзе прыліпаў, то зноў трымалі яго там і пасля вывarвалі ў малацэ. Лячэнне працягвалася, мабыць, з месяц, пакуль не ўпэўніліся, што атруты ўжо няма. Праз некалькі год пасля гэтага лячэння хлопец прыехаў запрашаць майго бацьку на сваё вяселле».

У далейшым аўтар пісьма даведалася, што гэта быў не «камень», а кавалак ласінага рога і што ласіным рогам карысталіся як сродкам супроць шаленства не толькі ў Будславе.

У іншых мясцовасцях рог лася рэжуць «тонкімі пялёсткамі, якія маюць белы колер, кладуць іх у гліняны гаршчок, шчыльна закрываюць і абмазваюць накрыўку глінай, каб не праходзіла туды паветра. І, як паліцца печ, ставяць гаршчок, аж пакуль не выпаліцца. Як астыне гаршчок, яго адкрываюць. Пялёсткі набываюць пасля такой сухой перагонкі такі ж колер, як і наш «камень». Гэтымі пялёсткамі абкладваюць усе месцы ў пакусанага, дзе толькі яны прыліпаюць, а калі пачнуць адвальваюцца, іх закопваюць глыбока ў зямлю, каб ненарокам жывёла не выкапала».

Лекавыя ўласцівасці ласінага рога былі, відаць, даўно вядомы нашым продкам, але з цягам часу гэты цікавы здабытак народнай медыцыны быў паступова забыты. Цяпер пра яго ведаюць толькі адзінкі з ліку старых людзей.

Сучасная медыцына карыстаецца ўякасці лекавага сродку маладымі рагамі аленя — «пантамі». Можа, варта заняцца вывучэннем і лекавых уласцівасцей ласінага рога? Можа, ласіным рогам можна лячыць не толькі шаленства, але і якія іншыя хваробы?

Паляванне на ласёў, а таксама на аленяў і казуль забаронена на ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза. У выніку гэтага ахоўнага мерапрыемства дзяржавы колькасць ласёў за апошні час значна павялічылася.

Ласі зноў з'явіліся ў мясцовасцях, дзе прыродныя ўмовы адпавядаюць іх жыццёвым патрэбам і дзе яны вяліся раней, у старыя часы, але былі знішчаны драпежніцкім паляваннем. Цяпер лася

не дзіва сустрэць не толькі ў далёкіх, глыбінных раёнах, але і ў ваколіцах буйных гарадскіх цэнтраў, нават такіх вялікіх, як Масква і Ленінград.

Нядаўна я атрымаў з Ленінграда ліст, у якім мне пісалі: «Кіламетраў за шаснаццаць ад Старога Пецяргофа мы бачылі на волі лася. Іх там многа, забіваць іх забаронена. Які ён прыгожы на волі, з горда ўзнятай галавой, з цёмнай магутнай шыяй і светлымі нагамі! У яго вельмі прыгожая, лёгкая паходка. Паколькі іх не чапаюць, яны зусім не палахлівыя.

Калі па дарозе праязджала машына, лось, не спяшаючыся, адбег зусім недалёка і спыніўся, а калі машына праехала, ён зноў вярнуўся, перайшоў дарогу і накіраваўся ў той бок, куды ішоў раней, напэўна, да рэчкі...»

Можна ўбачыць лася і пад Мінскам. Але найбольш часта сустракаюцца яны ў лясах па верхняму цячэнню Бярэзіны і на Палессі.

Маладыя ласі амаль не баяцца людзей. Яны не хаваюцца ў гушчары, выходзяць на дарогі і лугавіны, далучаюцца іншы раз да статка кароў.

Гэтым карыстаюцца часам браканьеры — несвядомыя і несумленныя людзі. У пагоні за свежым мясам і добрай скурай яны не спыняюцца перад тым, каб парушыць закон і забіць даверлівага лася — патаемна, цішком, на досвітку, каб ніхто не заўважыў. Многія часам пра гэта і ведаюць, ды маўчаць і гэтым самым патураюць ліхадзеям. Між тым, вінаватых у забойстве лася трэба прыцягваць да адказнасці.

Браканьераў трэба выкрываць! Ніхто, а тым больш юны натураліст, не павінен спакойна пазіраць, як злачынцы, шкоднікі прыроды знішчаюць багацці нашых лясоў.

На зялёных, зацярушаных снегам галінах гушкаюцца, лазяць, куляюцца і вісяць дагары нагамі невялікія чырванаватыя і зеленаватыя птушкі. Сваімі моцнымі, крыху скрыжаванымі дзюбамі яны вылушчваюць насенне з жоўтых яловых шышак.

Гэта — крыжадзюбы. Яны не баяц-

ца ні снегу, ні марозу. Дзяцей сваіх яны выводзяць не толькі летам, але і зімой. У яловым бары можна часам убачыць, як у самы люты мароз кормяць крыжадзюбы сваіх птушанят, якія сядзяць у гняздзе пад тоўстым заснежаным суком, каля самага ствала. Корму малым хапае, а холад ім у цёплым гняздзе не страшны.

Крыжадзюб — птушка вандроўная. У хвойных лясах яна сустракаецца ў вялікай колькасці тады, калі добры ўраджай на шышкі. Калі шышак мала, крыжадзюбы перабіраюцца ў іншую мясцовасць.

Калі крыжадзюб вылушчвае яловую шышку, частка насення падае на снег. Гэтымі рэшткамі карыстаюцца лясныя мышы.



Ад сваіх норак у лесе мышы пракладваюць пад снегам доўгія і вузкія калідоры і бегаюць па іх, шукаючы корму. А зверху ходзяць па снезе і вынюхваюць іх лісіцы. Яны цэлымі днямі палююць на мышэй, выкопваючы іх з-пад снегу.

На снезе пад старымі ялінамі ляжыць многа абгрызеных шышак. Усё насенне з іх дбайна вылушчана, засталіся толькі стрыжні.

Гэта — работа вавёркі. Насенне яловай шышкі, у якім многа тлушчу, з'яўляецца зімою асноўным кормам для вавёркі. Кормяцца гэтым насеннем таксама і дзятлы.

Зімою вавёрку можна часам убачыць у лесе на яліне з шышкай у пярэдніх лапах. Але ў люты мароз і ў снежную завею вавёрка не вылазіць са свайго гнязда. Яна спіць у ім цэлымі днямі.

Мякка пасвістваючы, павольна ўзлятае на заснежаны куст спакойная пушыстая птушка з цёмнай галоўкай і шэрай спінкай. На фоне белага снегу і серабрыстага інею на галінках прыгожа вылучаюцца чырвоным колерам яе брушка і грудкі. За першай птушкай з'яўляецца і другая, і трэцяя.

Вы, напэўна, адразу здагадаліся, што птушкі гэтыя — снегіры. Іх называюць яшчэ і гілямі. Летам яны кормяцца казюркамі і насеннем розных траў і дрэў, а зімою — насеннем яліны і сасны.

Снегіры збіраюць яго па снезе, бо самі не ўмеюць лушчыць шышкі — у іх за-



надта слабая для гэтага дзюба. Я часта бачыў, як кормяцца снегіры і насеннем парасонавых траў, вяршалінкі якіх тырчаць з-пад снегу.

У пачатку зімы снегіры кормяцца ягадамі рабіны, крушыны, ядлоўцу. З ягад яны выбіраюць насенне, а ўсё астатняе кідаюць. Месцы кармлення снегіроў заўсёды можна пазнаць па рэштках ягад на зямлі.

Значная частка снегіроў прылятае да нас у госці з далёкай поўначы. На сваёй радзіме снегіры гняздзяцца на кустах ядлоўцу, часам на бярозах і соснах.

Зімою снегіры з'яўляюцца на вуліцах гарадоў. Я памятаю, як у маленстве бачыў невялікія чародкі з пяці-шасці снегіроў у канцы лістапада і ў снежні на бульвары між Тучковым мостам і цяперашнім праспектам Дабралюбава ў Ленінградзе, калі вяртаўся дадому са школы. Кожны раз я доўга стаяў і любаваўся прыгожымі птушкамі. Ціха перасвістваючыся, снегіры спакойна пераляталі з куста на куст, падоўгу затрымліваліся на адным месцы — чырванагрудыя самцы і дымчата-шэрыя з чорным самкі. Флегматычных, павольных у руху птушак зусім не бянтэжыў ні звон трамвая, ні вулічны шум.



З поўначы таксама прылятае да нас і з'яўляецца зімою на вуліцах Мінска другая спакойная і прыгожая птушка — амялушка.

Чародкі амялушак, часам да дванаццаці — пятнаццаці, можна ўбачыць зімою і ў парку Янкі Купалы, і ў садзе Політэхнічнага інстытута, і ў парку Чалюскінцаў.

Вось расселіся амялушкі на дрэвах перад кінатэатрам «Зорка». Адны сядзяць моўчкі і нерухома, другія частуюцца ягадамі рабіны. Сытыя і гладкія цельцы амялушак, бурavата-шэрыя з чырванаватым адценнем, чубікі на галоўках, белыя і ярка-жоўтыя палоскі на крыллях так прыгожа спалучаюцца з



шэрым небам, белым снегам і чырвонымі ягадамі.

Пачулася лёгкая, працяглая і пяшчотная, серабрыстая трэль. Гэта дала сігнал усёй чародцы адна з амялушак. Трэль паўтарылася, і ўсе птушкі, нібы па камандзе, успырхнулі з дрэва і паляцелі прэч.

Летам амялушкі кормяцца ў асноўным камарамі, восенню і зімою — ягадамі крушыны, каліны, чаромхі, рабіны, ядлоўцу, праглынаючы іх цалкам.

Зімою ў нашых лясах сустракаецца белая палярная сава.

Гэта таксама наш госць.

Жыве палярная сава на поўначы, у тундры. Там яна і гняздзіцца. На нас белая сава перабіраецца позняй восенню на зімоўку, а ранняй вясной вяртаецца на радзіму.

У тундры асноўным кормам белай савы з'яўляюцца лемінгі — маленькія грызуны з кароценькімі хвосцікамі. У беларускіх лясах палярная сава ловіць мышэй і дробных птушак.

Белае ахоўнае апярэнне палярнай савы зліваецца з навакольным зімовым пейзажам. Калі белая сава сядзіць нерухома на дрэве, яна абрысам свайго тулава нагадвае снежны камяк. Нялёгка заўважыць паўночную госцю ў заснежаным лесе.

Сярод лясной цішыні не пачуеш цяпер і каркання варон. Шэрыя вароны, якія гняздзяцца ў лесе, перабраліся на зімовы час у гарады і вёскі. Тут, на вуліцах, на дварах, каля сметнікаў, яны хутчэй здабудуць сабе корм, ды і ха-

дзіць па цвёрдым снезе ім лягчэй, чым у лесе і ў полі.

І ваўкам цяжка бадзяцца па глыбокім снезе. Зімою ваўкі ходзяць звычайна па дарогах і пратаптаных сцежках. Калі ж ім трэба ісці па некранутым снезе, то яны ідуць адзін за адным, след у след.

22 снежня — самы кароткі дзень у годзе. Пасля гэтага дня сонца пачынае ўзыходзіць раней, дзень павялічваецца. 31 снежня гадавы каляндарны цыкл закончаны. Пачынаецца новы год.



ЗМЕСТ

Бел 2
В 71

В $\frac{70802-153}{М 302(05)-75}$ 203-75



На белорусском языке

Виталий Фридрихович Вольский

МЕСЯЦ ЗА МЕСЯЦЕМ

Для детей младшего школьного возраста

Рэдактар З. П. Петрушэня.
Мастакі Л. У. Зяневіч, Ул. С. Пімена ў.
Мастацкі рэдактар В. П. Жыжэнка.
Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо.
Карэктар Л. С. Мануленка.

Здадзена ў набор 3/VII 1974 г. Падп. да друку 3/I 1975 г. Тыраж 40 000 экз. Фармат 90×70[1]/[16]. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 7,6. Ул.-выд. арк. 4,71. Зак. 1264. Цана 63 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

